

# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Субота, 11 снежня 1993 г.
№ 160 (19295) Цана 15 руб.


◆ *НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА*

## Пяцьдзесят на пяцьдзесят па-парламенцку

Пяцьдзесят на пяцьдзесят — так спрацавалі парламентарыі на вячэрнім пасяджэнні 8 снежня, прымаючы папраўкі і дапаўненні ў заканадаўчыя акты па падаткаабкладанню. Не дагаворваючыся аб строгай паслядоўнасці, яны прымалі адзін з раздзелаў закона, абавязкова адпраўляючы наступны на дапрацоўку.

Лік парламенцкай прадуктыўнасці адкрыў раздзел законапраекта аб унясенні паправак у Закон "Аб плацяжах на зямлю". З яго прыняццем плацельшчыкамі зямельнага падатку ў Беларусі становяцца не толькі дамарослыя юрыдычныя асобы, але і замежныя, якім зямельныя ўчасткі прадастаўляюцца ў валоданне, карыстанне або ва ўласнасць.

Наступным на чарзе быў раздзел аб унясенні змяненняў у Закон "Аб падаходным падатку з грамадзян". Старшыня Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета Раман Унучка, які выступіў па гэтаму пытанню, прапанаваў законапраект з абмеркавання зняць. Прамоўца выказаў перакананне, што ў той форме, у якой прадстаўлены дакумент, ён прыняты не будзе. Галасаванне ж за асобныя пункты нічога не дасць. Яго трэба мяняць або ўвесь у цэлым, або не мяняць нічога, сказаў у заключэнне Раман Іосіфавіч. Для прыняцця рашэння па гэтай прапанове дэпутатам прыйшлося рабіць два "дублі". Пасля першага галасавання "за зняцце" парламентарыям не хапіла аднаго голасу. Пасля другога — электронная машына налічыла 9 галасоў звыш неабходнай для прыняцця нормы.

Як кажуць — "пасля буры чакай спакою". Бурныя дэбаты па папярэдняму пытанню далі магчымасць народным выбраннікам у спакойнай абстаноўцы завяршыць разгляд паправак да Закона "Аб падатку на экспарт і імпарт".

Наступны дакумент зноў не спадабаўся дэпутатам. Такі лёс адводзіўся Закону "Аб падатку на паліва". Распрацоўшчыкі прапанавалі ў ім знізіць стаўку падатку на паліва з 20 да 10 працэнтаў. Пры гэтым фінансісты растлумачылі, што ў выніку дзяржаўная казна нічога не страчвае. Гэта толькі стымулюе ўвоз энергарэсурсаў у рэспубліку і ўскладніць аперацыі са шматступеньчатым перапродажам. Аднак гэтыя аргументы не пераканалі дэпутатаў. Прагаласаваўшы за прапанову "на дапрацоўку", яны закончылі свой рабочы дзень прыняццем паправак у Закон "Аб дзяржаўнай пошліне".

Белінфарм.

## Падзеі. Факты. Каментарыі



## Так падказалі зоркі

Гэта не аптычны падман! На гэтай фатаграфіі адлюстраваны факт, які можна занесці ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

...Жылі на вуліцы Чкалава ў Віцебску дзве дзяўчынкі Вольга і Жанна — блізняты. І не ведалі яны, не меркавалі, што ў сваім дарослым жыцці сустрэнуць дваіх братоў-блізнят, сваіх будучых мужоў — Сяргея і Андрэя Волкавых.

Або зоркі так падказалі лёс, або Богу так было трэба, аднак гэтыя пары злучыліся і жывуць шчасліва. Сяргей і Андрэй працуюць у абласной друкарні, а жонкі — на тэлезаводзе.

А.АЛЯКСЕЕЎ.

На здымку: злева направа (а можа, наадварот) Сяргей, Вольга, Жанна, Андрэй Волкавы ў дзень вяселля Андрэя і Жанны.

Фота аўтара.

## БЕЛАРУСКІЯ НАЗІРАЛЬНІКІ НА ВЫБАРАХ У РАСІІ

На маючых адбыцца 12 снежня выбарах у Расіі будуць прысутнічаць у якасці назіральнікаў прадстаўнікі беларускага парламента. На выбарчыя ўчасткі Смаленска адправяцца народныя дэпутаты Дзмітрый Булахаў, Раіса Самусевіч і Зінаіда Пянькова.

У якасці назіральнікаў на выбары ў Маскву паедуць таксама прадстаўнікі некаторых грамадска-палітычных рухаў і партый Беларусі.

Белінфарм.

◆ *У ПАРТЫЯХ І РУХАХ*

## «ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ І КУЛЬТУРА»

На чарговым пасяджэнні каардынацыйнага савета абласной арганізацыі Аб'яднана-дэмакратычнай партыі Беларусі была разгледжана грамадска-палітычная абстаноўка ў рэгіёне. У прыватнасці, усе выступаўшыя адзначылі вельмі нізкі ўзровень палітычнай актыўнасці насельніцтва вобласці. На што ў немалой ступені, на думку аб'яднаных дэмакратаў, працягвае ўплываць сучасная палітыка людзей учарашніх, накіраваная на захаванне ранейшых стэрэатыпаў паводзін у свядомасці народа.

Каб ініцыіраваць працэс да лепшага, члены савета вырашылі сістэматычна праводзіць канферэнцыі, семінары не толькі ў цэнтры, але і ў розных раёнах вобласці. Напрыклад, першую навукова-практычную канферэнцыю на тэму: "Цывілізацыя і культура" намечана правесці ўжо 12 снежня ў г.п. Бешанковічы.

Члены савета разгледзелі заяву старшыні абласной арганізацыі АДПБ, настаўніка СШ № 3 г. Наваполацка П.Галыні аб проціпраўных дзеяннях некаторых службовых асоб народнай адукацыі г.Наваполацка. Атрыманую інфармацыю было вырашана накіраваць у пракуратуру.

Прэс-служба абласной і гарадской арганізацый АДПБ.

## Экспрэс — інфармацыя

*Унікальная выстаўка старажытных кніг адкрылася ў Горацкай карціннай галерэі. Тут прадстаўлены выданні, якія выходзілі на тэрыторыі Беларусі ў 1517—1620 гадах. Гэта друкаваныя работы Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Пятра Мсціслаўца і іншых дзеячаў беларускага адраджэння.*

**Масла, што прыбыло ў Маскву з ЗША ў якасці гуманітарнай дапамогі, санітарна-эпідэміялагічнай службай прызнана прадуктам нестандартным, з прысмакам акісленага тлушчу. Уся партыя падлягае тэрміновай рэалізацыі па паніжаных цэнах.**

*З 8 снежня павысіліся цэны на бензін. Заправіць бак "Жыгулёнка" цяпер будзе каштаваць амаль дзве мінімальныя зарплаты. За літр бензіну А-92 і АІ-93 трэба вылажыць 1145 "зайцоў", А-76 — 1055. Падаражэла і дызельнае паліва. Прыватнікам яно стала абыходзіцца ў 1030 рублёў за літр, прадпрыемствам — у 880.*

**Ключавы ген, які ўдзельнічае ва ўтварэнні ракавых пухлін, знайшлі вучоныя ЗША. Адкрыццё стварае новыя магчымасці для лячэння хваробы стагоддзя.**

*Дэмакратычны блок "Выбар Расіі" лідзіруе ў перадвыбарнай кампаніі. Аднак рэйтынг яго зніжаецца. Гэта паказала апытанне, праведзенае ў Маскве незалежным інстытутам сацыялогіі і парламентарызму пад кіраўніцтвам Н.Бетанелі. Калі 11 лістапада за "Выбар Расіі" былі гатовы аддаць галасы 30% апытаных масквічоў, 18 лістапада — 22%, то апошнім часам — толькі 20%.*

**Усё больш крымінальны характар набывае перадвыбарная барацьба ў Дагестане.**

**Вечарам 7 снежня пры выхадзе з работы ў цэнтры Махачкалы быў забіты з аўтамата кандыдат у дэпутаты Савета Федэрацыі РФ, старшыня савета камерцыйна-інвестыцыйнай карпарацыі "Дагестан" Багавутдзін Гаджыеў.**

*Урад Масквы пачаў падрыхтоўку да святкавання 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Сярод іншых мерапрыемстваў плануецца і Парад Перамогі на Краснай плошчы.*

**Выкраданне людзей у Грузіі з мэтай выкупу прыняло велізарны размах. Толькі сёлета выкрадзена каля 30 чалавек, пераважна дзяцей. Гэтыя даныя былі прыведзены на надзвычайным пасяджэнні ў Тбілісі калегіі пракуратуры Грузіі. Як сказаў выконваючы абавязкі генеральнага пракурора Грузіі Джамлет Бабілашвілі, большасць імёнаў членаў банд-фарміраванняў, якія займаюцца кіднэпінгам, вядомы, выдадзены санкцыі на іх арышт, але ў паліцыі недастаткова сіл для затрымання выдатна аснашчаных злачынцаў, якія, напрыклад, ездзяць на куленепрабівальных "мерседэсах", карыстаюцца арсеналам навейшай зброі, шырока разгалінаванай агентурай.**

*У Пецярбургу супрацоўнікамі спецслужбаў сумесна з ваеннай контрразведкай Ленінградскай ваенна-марской базы арыштавана група злачынцаў, у якую ўваходзілі старшыя афіцэры службаў тылу базы. Як паведаміла прэс-служба ўпраўлення МБР па Пецярбургу і Ленінградскай вобласці, высокаачышчанае тэхнічнае срэбра з акумулятараў тарпед, што знаходзіліся на захоўванні, пераплаўлялася ў саматужныя ювелірныя вырабы з фальшывымі клеймамі і ярлыкамі. Аб'ём украдзенага — каля тоны срэбра коштам 350 мільёнаў рублёў.*

Паводле матэрыялаў інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх, замежных газет.

## Белдзяржстрах прапануе медыцынскае страхаванне з лячэннем за мяжой

З 1 снежня 1993 года страхавыя органы Белдзяржстраха прыступілі да правядзення медыцынскага страхавання з лячэннем за мяжой у лепшых медыцынскіх клініках Германіі і Ізраіля. Дагаворы страхавання заключаюцца з грамадзянамі ва ўзросце да 60 год, а таксама з прадпрыемствамі і арганізацыямі, якія жадаюць застрахаваць сваіх работнікаў.

Страхавы ўзнос уплачваецца аднаразова наяўнымі грашыма або шляхам безнаяўных разлікаў праз бухгалтэрыю арганізацыі і складае 30 долараў ЗША. Па ўмовах страхавога полісу пры наяўнасці дагавора медыцынскага страхавання з лячэннем за мяжой застрахаванымі таксама лічацца члены сям'і (муж, жонка і дзеці з 3-х месяцаў да 18 год).

Страхавыя органы Белдзяржстраха прымаюць на сябе адказнасць пры наступленні страхавой падзеі па кампенсацыі застрахаваным асобам і членам іх сем'яў расходаў за медыцынскае лячэнне, якое праводзіцца за мяжой, транспартныя расходы, расходы на жыллё ў атэлі, харчаванне, набыццё лекавых сродкаў і інш.

Больш падрабязную інфармацыю па новаму віду страхавання можна атрымаць у аддзяленнях Белдзяржстраха і прадстаўніцтве Белдзяржстраха па Віцебскай вобласці па тэл. 36-58-89.

Патурбуйцеся аб сваім здароўі загадзя — заключыце дагавор медыцынскага страхавання з лячэннем за мяжой.

Прадстаўніцтва Белдзяржстраха.

# СІТУАЦЫЯ

АД НАШЫХ УЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

Георгій КАРАЛЁЎ

ВІЦЕБСК — ОРША

## БІЛІ ТАГО, ХТО ЛЯЖАЎ...

Як часта мы, нявыхаваныя або змардаваныя паганым нашым жыццём, гаворым адзін аднаму розныя брыдоты. З нашых вуснаў з неймавернай лёгкасцю злятаюць крыўдныя і балючыя словы, якія моцна раняць знаёмых і незнаёмых нам людзей. У магазіне, калі стаім у даўжэзнай чарзе за дэфіцытам, які ў "дэмакратычны" наш час стаў усеагульным. У перапоўненым, з боем узятым аўтобусе, за праезд у якім змушаны плаціць сёння ў тысячу разоў больш, чым учора. На заводзе, дзе з-за адсутнасці работы (няма сыравіны, камплектуючых, электраэнергіі) немагчыма зарабіць на кавалак хлеба.

Ды што там магазін, аўтобус ці завод! У самім парламенце страсці-мардасці напаляюцца іншы раз да такой ступені, што, здаецца, дэпутаты вось-вось схопяць адзін аднаго загрудкі. Нават памяркоўны спікер дайшоў нядаўна да таго, што запусціў у дэпутата вельмі цікавае слоўца — "бандытызм", падыходзячае, згадзіцеся, не для таго, хто дзяржавай кіруе, а для таго, хто з калом ці нажом выходзіць на вялікую дарогу.

Вось і гісторыя, аб якой расскажам, таксама адбылася на дарозе, дакладней, на ажыўленай гарадской вуліцы нашага абласнога цэнтра. Пачалася яна з таго, што ў салоне легкавога таксі ўзнікла спрэчка, пустая і нікчэмная. Паміж шафёрам і групай маладых людзей. Маладыя людзі прасілі: "Падвязі". Шафёр адказаў: "Не павязу". Пасажыраў, маўляў, больш, чым месц у машыне.

Слова за слова — узнікла канфліктная сітуацыя, сумным фіналам якой стала тое, што адзін чалавек загінуў, а трое трапілі ў турму.

Гаворка аб трагедыі, што разыгралася халодным вечарам 24 студзеня 1992 года ў Віцебску. Адмовіўшыся везці маладых людзей, шафёр таксі А.В.Дубавец, які палічыў сябе зняважаным, не знайшоў нічога іншага, як паскардзіцца вартавым парадку. А тыя — супрацоўнікі асобнай роты міліцыі спецыяльнага прызначэння ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома В.П.Багрэц і К.М.Лускін і супрацоўнік аддзела пазаведамаснай аховы Кастрычніцкага РАУС г.Віцебска У.П.Царыкаў — не сталі разбірацца, што тут да чаго. Дзейнічалі яны надзвычай аператыўна і рашуча. У іншых абставінах такія іх дзеянні выклікалі б толькі адабрэнне. А тут... Тут быў той выпадак, калі ад людзей у форме патрабавалася асабліва высокая вытрымка, разважлівасць, культура. На жаль, нічога гэтага ў іх не аказалася. Яны ўчынілі суд хуткі і... несправядлівы.

...Студэнт медыцынскага інстытута 18-гадовы А.А.Баранаў (а менавіта ён знаходзіўся ў ліку маладых людзей, якія хацелі, але не змаглі пакарыстацца таксі), калі ўбачыў набліжэнне міліцэйскай машыны, якой кіраваў Царыкаў, пабег у бок вуліцы Суворава. Падумаў, відаць: "Лепш не звязвацца з імі, каб не даказваць потым, што ні ў чым не вінаваты". Багрэц і Лускін кінуліся наўздагон. Дагналі, вядома.

Далей пачалося тое, чаму нельга знайсці якога-небудзь разумення і тлумачэння. Некалькі здаровых, трэніраваных і, як аказалася, вельмі жорсткіх мужчын накінуліся на аднаго, слабога і безабароннага. Прымяніўшы спецыяльныя сродкі — гумавыя палкі — першы з іх нанёс студэнту два ўдары, другі — яшчэ адзін. Ад моцных удараў па спіне Саша Баранаў упаў і нерухома ляжаў на асфальце. Тут да яго падскочыў Царыкаў і, скамандаваўшы: "Устаць!", таксама нанёс удар палкай. Па ляжачаму. Багрэц ударыў яшчэ раз, цяпер ужо нагой. Па ляжачаму...

Нерухомае цела пагрузілі ў міліцэйскі аўтамабіль і павезлі ў раённы аддзел унутраных спраў. Там канстатавалі: Баранаў мёртвы.

Народны суд г.Оршы, дзе ў адкрытым судовым пасяджэнні разглядалася крымінальная справа па абвінавачванню Баграца, Лускіна і Царыкава ў здзейсненым імі злачынстве, даў вычарпальную характарыстыку іх дзеяння. Вось што напісана ў прыгаворы (даруем аўтарам некаторую расцягнутасць і каравасць фразы): "Яны без наяўнасці ўстаноўленых законам падстаў затрымалі Баранава А.А. і без усялякай неабходнасці ва ўмовах, калі гэта не выклікалася канкрэтнай абстаноўкай... у сілу сваёй спецыяльнасці, прафесіянальнай падрыхтоўкі і складу цела, маючы пераўзыходзячую перавагу над Баранавым А.А., яўна выходзячы за межы прадастаўленых ім правоў і паўнамоцтваў, уніжаючы чалавечую годнасць пацярпеўшага, прычыняючы яму моцны боль і пакуты, незаконна збілі Баранава А.А...".

І прыведзеная цытата, і змест усяго прыгавору пераканаўча сведчаць, што Багрэц, Лускін і Царыкаў груба парушылі артыкулы 3, 18, 19 і 20 Закона РБ "Аб міліцыі", згодна з якімі дзейнасць міліцыі павінна будавацца на прынцыпах законнасці, гуманізму, павагі правоў чалавека, а фізічная сіла і спецыяльныя сродкі павінны прымяняцца толькі ў выключных выпадках. Выпадак жа, што адбыўся студзеньскім вечарам 1992 года, да выключных не адносіўся, і дзеянні Баграца, Лускіна і Царыкава, якія пацягнулі смерць Баранава, да правамерных аднесці нельга.

Як указвалася ў апублікаванай у нашай газеце інфармацыі аб пачатку судовага працэсу (гл. "Віцебскі рабочы" за 8 верасня 1993 года), ніхто з падсудных вінаватым сябе не прызнаў. Аднак віна іх у ходзе папярэдняга і судовага следства паўнасцю даказана. Больш таго: выкрыта хлусня, да якой не раз прыбягалі спецназаўцы і іх апекуны. Каб схаваць, абяліць і замазаць несамавітыя дзеянні, яны ішлі на ўсялякія хітрыкі, падтасоўкі і іншыя выкрутасы.

Як, напрыклад, расцаніць учынак "баявых" калег Баграца? Калі стала зусім відавочным, што за насілле, учыненае над Баранавым, давядзецца адказваць па закону, яны самі пачалі "шманаць" Баграца і навесілі яму на твар яркі "ліхтар". Навошта? Адказ просты: трэба было выставіць Баграца ў якасці пацярпеўшага ад Баранава і надаць яго зверству ў адносінах да апошняга бачнасць законнасці.

Да падобных агіднасцей, на жаль, прыбягалі і высокія міліцэйскія чыны. Як відаць з судовай справы, у ход пускалася бессаромная фальсіфікацыя, рабіліся спробы зганьбаваць Сашу Баранава і яго бацьку, ствараліся розныя версіі, выгадныя для міліцыі.

Карацей кажучы, абаранялі гонар мундзіра ўсімі магчымымі і немагчымымі спосабамі. Але абарона гэта, пабудаваная на пяску, не вытрымала і рассыпалася ўшчэнт. Пад націскам неабвержных доказаў, прыведзеных кваліфікаваным і сумленным следствам. У ходзе яго была ўстаноўлена ісціна і расстаўлены ўсе кропкі над "і".

Вызначаючы меру пакарання вінаватым, першая судовая інстанцыя ўлічыла як абцяжарваючыя, так і некаторыя змякчаючыя адказнасць акалічнасці. Кіруючыся артыкуламі 167 ч. 2 і 106 ч. 2 КК РБ Аршанскі гарадскі народны суд прыгаварыў Віктара Пятровіча Баграца да шасці, Лускіна Канстанціна Міхайлавіча да пяці і Царыкава Уладзіміра Пятровіча да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў выхаваўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Суд пастанавіў таксама спагнаць з упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома ў карысць А.П.Баранава (бацькі Сашы) 812870 рублёў у якасці пакрыцця страт на пахаванне сына. Амаль такую ж суму склала дзяржпошліна ў даход дзяржавы.

Але ніякімі грашыма не змераць глыбіню і горыч трагедыі, што адбылася студзеньскім вечарам у Віцебску і забрала жыццё маладога, у самым росквіце сіл чалавека. Трагедыі гэтай магло і не быць, як, дарэчы, і турэмных кратаў для людзей, якія былі закліканы пільна стаяць на варце законнасці, гонару і годнасці іншых, але парушылі ўласную клятву рабіць гэта. Двое з іх — Багрэц і Лускін — амаль што равеснікі Баранава, толькі-толькі пачалі свой шлях у міліцыі, 22-гадоваму Лускіну, напрыклад, не хапіла ўсяго двух дзён, каб дастойна адзначыць першую гадавіну работы ў органах унутраных спраў: на службу ён паступіў 26 студзеня 1991 года, а 24 студзеня 1992 года канчаткова яе скампраметаваў.

Тое, што здарылася, не зменіць і не паправіць. Не падняць з магілы Баранава, не знайсці апраўдання вінаватым у яго смерці. Цяжкія, трывожныя думкі выклікае ўсё гэта. Цяжка ад незваротнай страты, трывожна ад злачыннасці, якая, як гэта ні страшна прызнаць, раз'ядае ўжо і праваахоўныя органы. Канечне, на душы было б намнога спакайней, калі б мы былі пераканаы, што толькі Багрэц, Лускін і Царыкаў кінулі цень ганьбы на нашу мужную і самаадданую міліцэйскую сям'ю. Шкада, але факт: яны — не выключэнне.

Што застаецца нам у гэтым жорсткім, скажоным, з ног на галаву пастаўленым свеце? Зусім нямнога. Заставацца проста людзьмі. Шанаваць самалюбства адзін аднаго. Быць гранічна асцярожнымі ў абыходжанні са словам. Нідзе — ні ў магазіне, ні ў аўтобусе, ні на заводзе, ні тым больш у парламенце не крыўдзіць знаёмых і незнаёмых суграмадзян грубасцю і абразай, з якіх, як мы пераканаліся, і пачынаецца нярэдка злачынства. Размаўляць і дзейнічаць па-людску!

♦ ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

## Трубаўкладчык Іван Карасёў

У кожнай справе ёсць энтузіясты — людзі ўсёй душой адданыя таму, чым займаюцца. Мне хочацца расказаць менавіта аб такім чалавеку, трубаўкладчыку Іване Іванавічу Карасёве, які 25 гадоў працуе ў будаўнічым упраўленні № 155 трэста № 16 "Нафтабуд" г. Наваполацка.

У 1969 годзе ён прыехаў у Наваполацк ужо спрактыкаваным рабочым. Да гэтага на Украіне ў г. Нікалаеве закончыў школу ФЗН і атрымаў спецыяльнасць слесара-мантажніка чацвёртага разраду. Паспеў папрацаваць ужо слесарам на Білкаўскай суднаверфі. Паспрабаваў хлеб электрыка ў леспрамгасе камбіната "Котлалес".

І вось новае месца работы — трэст № 16 "Нафтабуд". У аддзеле кадраў БУ-155, паглядзеўшы працоўную кніжку І.І.Карасёва, пацікавіліся, ці надоўга ён у Наваполацк і кім хоча працаваць. "Назаўсёды", — сур'ёзна адказаў І.І.Карасёў і папрасіўся ў трубаўкладчыкі. Вопыт гэтай работы, адзначаны трэцім разрадам, у яго ўжо быў.

— Гэта добра, — сказаў Івану Іванавічу начальнік аддзела кадраў, — але дадаткова давядзецца ў брыгадзе асвоіць прафесію бетоншчыка.

Яго накіравалі ў брыгаду бетоншчыкаў В.А.Баркоўскага, якая займалася нулявым цыклам — будаўніцтвам фундаментаў і укладкай падземных трубаправодаў.

— У брыгадзе прынялі як звычайна ў такіх выпадках, — успамінае Іван Іванавіч. — Маўляў, паглядзім, чаго ты варты. Спрактыкаваных трубаўкладчыкаў у той час было мала. А ў мяне як-ніяк навыкі работы ўжо былі. Хутка адчуў: у калектыве брыгады станаўлюся сваім. А гэта, напэўна, многае значыць...

Мінула нямала часу, і Карасёва сталі адзначаць на будоўлі як спрактыкаванага акуратнага працаўніка. Разам з брыгадзірам В.А.Баркоўскім ён стаў душой брыгады. Асабліва любілі Карасёва маладыя рабочыя, якія ўпершыню прыйшлі ў калектыў. Цяжкасцей у той час на будоўлі было больш чым дастаткова. Часта даводзілася працаваць у дзве смены. І атрымлівалася так: раз брыгада моцная, праяўляе вялікую адказнасць за даручаную справу, яе — на самы складаны ўчастак. І ніколі брыгада В.А.Баркоўскага не падводзіла.

...Шмат вады ўцякло ў Дзвіне з таго часу. На яе берагах вырас горад і вялікі нафтахімічны прамысловы комплекс. Калі спытаць у Івана Іванавіча, на якіх аб'ектах яму давялося працаваць, расказ выльецца ў доўгі пералік. І абавязкова назаве Карасёў дзіцячую паліклініку, бальнічны гарадок, дамы для перасяленцаў-чарнобыльцаў, хлебазавод, адным словам, тыя аб'екты, якія напрамую "завязаны" на людзей у горадзе. Разам з таварышамі Іван Іванавіч пракла ў за мінулыя гады больш за 300 кіламетраў падземных трас.

Сёння І.І.Карасёва можна прадставіць так: трубаўкладчык, бетоншчык, слесар-мантажнік, электрык, стропальшчык... Як кажуць на будоўлі, майстар на ўсе рукі. Высокі прафесіяналізм — яго галоўнае багацце, аўтарытэт і павага. У калектыве Івана Іванавіча цэняць за чуласць і дабрыню да людзей, ведаючы, што ў любую хвіліну ён гатовы дапамагчы парадай і справай, жыве інтарэсамі калектыву.

— Калі брыгадзір ідзе ў водпуск, — расказвае майстар В.А.Буланаў, — яго замяняе І.І. Карасёў. Ён мог бы і сам узначаліць калектыў і, не сумняваюся, стаў бы вядомым на будоўлі. Але Іван Іванавіч верны той таварыскасці, якая склалася за доўгія гады ў брыгадзе Баркоўскага.

Нядаўна калектыў БУ-155 сардэчна павіншаваў Івана Іванавіча Карасёва з 60-годдзем з дня нараджэння і 37-годдзем працоўнай дзейнасці. Таварышы па працы пажадалі яму моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, уручылі каштоўны падарунак і паднеслі шмат кветак...

Вось такі чалавек працуе ў будаўнічым упраўленні № 155 трэста № 16 "Нафтабуд" і жыве ў горадзе беларускіх нафтахімікаў і будаўнікоў.

Г.РАЖКЕВІЧ.




Мал. А. ДАРАГАКУПЦА.

♦ СА СТУЖКІ ТЭЛЕТАЙПА

## Ці дапамогуць журналістам і міністрам?

Па трох напрамках будзе развівацца дзейнасць Фонду Сароса ў рэспубліцы ў наступным годзе. Як паведаміла выканаўчы дырэктар Беларускага прадстаўніцтва фонду Сароса Элізабет Смедлі, ужо распрацавана некалькі канкрэтных праграм, закліканых дапамагчы рэспубліцы ў вырашэнні экалагічных праблем, пытанняў, звязаных з работай незалежнай і дзяржаўнай прэсы, а таксама з падрыхтоўкай спецыялістаў на міністэрскім узроўні для хутчэйшага ажыццяўлення ў рэспубліцы прыватызацыі.

— Гаворачы аб рабоце беларускай прэсы і тлебачання, трэба адзначыць, што на сёняшні дзень журналісты і ўвесь інфармацыйны корпус Беларусі знаходзяцца ў поўнай ізаляцыі ад астатняга свету, — сказала Элізабет Смедлі. — Акрамя таго, што гэтаму перашкаджае няведанне замежных моў, другім бар'ерам на шляху расшырэння інфармацыйных зносін з'яўляецца і адсутнасць у рэспубліцы доступу да сусветных выданняў, газет, часопісаў. Адсутнічаюць яны не толькі ў саміх інфармацыйных структурах, але нават і ў бібліятэках. У сувязі з гэтым у 1994 годзе Фонд Сароса мае намер паўтарыць вопыт Расіі, дзе ўжо дзейнічае інфармацыйны расійска-амерыканскі цэнтр, і стварыць у Мінску аналагічны. У яго ўвойдуць некалькі падраздзяленняў, у тым ліку бібліятэка сусветнай прэсы, якая будзе атрымліваць і штодзённыя выданні. Акрамя таго, інфармацыя можа паступаць і па мадэмнай сувязі. Будзе вырашацца моўная праблема — у цэнтры плануецца адкрыць курсы англійскай мовы для журналістаў усіх рэспубліканскіх выданняў.

Другая важнейшая праблема, у вырашэнні якой фонд мае намер аказаць адукацыйную і матэрыяльную дапамогу, — ажыццяўленне прыватызацыі ў Беларусі. Для гэтай мэты ўжо ў студзені наступнага года ў Мінску пачне дзейнічаць Інстытут прыватызацыі і менеджменту. За яго парты сядуць многія міністэрскія работнікі, якім у далейшым прыйдзецца ажыццяўляць прыватызацыю ў рэспубліцы.

Белінфарм.

Мінск.

### ♦ У КНІГУ "ПАМЯЦЬ"

## «НАПІШЫЦЕ ПІСЬМО АД СЫНА...»

Васіль Крылоў з Істрынскага раёна Маскоўскай вобласці ў 17 год уцёк на фронт. У 19 гадоў, 11 студзеня 1944-га, ён загінуў у баі на Заронаўскім выступе, калі нашы войскі пасля ўзяцця Гарадка вялі наступленне на Віцебск. "В.М.Крылоў" — значыцца на пліце сярод пяці прозвішчаў пахаваных у брацкай магіле ў Заронаве. У 1976 годзе на адкрыццё мемарыяльнага комплексу прыязджала маці загінуўшага салдата.

З таго часу Таццяна Міхайлаўна Крылова, а ёй ужо 90 гадоў, пражыла за сябе і за сына, піша па некалькі пісьмаў у год савету Заронаўскага музея народнай славы. Баліць сэрца маці па сыну, які не вярнуўся з бою. "Дарагія ўнукі! Я вельмі вас прашу, напішыце пісьмо ад сына, як быццам праслаў мне сынок Вася. Калі ласка, прашу вас..."

Гэтыя пісьмы, якія захоўваюцца ў музеі, нельга чытаць без хвалявання. Замалёўка аб маці, якая 50 гадоў пакутуе па адзінаму сыну, падрыхтавана для хранікальна-дакументальнай кнігі "Памяць".

Навуковыя супрацоўнікі выдання, якое рыхтуецца да друку, знайшлі нямала цікавых дакументаў, што захоўваюцца ў архівах музеяў абласнога цэнтра і Віцебскага раёна, тэрыторыя якога ў гады Вялікай Айчыннай вайны была арэнай жорсткіх баёў за вызваленне горада.

У Віцебску 21 музей і пакой баявой славы, якія сабралі багацейшы матэрыял аб часцях і злучэннях, што вызвалялі Віцебск. Сярод тых, хто вельмі дапамагае творчаму калектыву кнігі "Памяць", — музей баявой славы 953-га Віцебскага штурмавога авіяпалка (ПТВ № 96), музей 43-й Арміі (СШ № 36), музей баявой славы 39-й Арміі (СШ № 32), музей баявой славы 723-га авіяпалка (СШ № 20), 91-й стралковай дывізіі (СШ № 27), музей 251-й Віцебскай стралковай дывізіі (ПТВ № 19).

І зноў аб раёне. На 11-м кіламетры шасэ Віцебск — Смаленск размясцілася сяло Вароны. У 1943-44 гг. тут пралягалі ўсходнія рубяжы значных умацаванняў немцаў, што акружалі крэпасць Віцебск і атрымалі назву вядомага "Мядзведжага вала", настолькі нашпігаванага абарончымі збудаваннямі і тэхнікай, што адсюль пайшлі нават партызаны.

Побач са школай — невялікі цагляны будынак: народны музей воінскай славы. Заснаваны ў 1962 г. Па свайму зместу ён ужо даўно перарос рамкі школьнага. У фондах дзве тысячы экспанатаў, многія унікальныя, сабраны дзякуючы заслужанай настаўніцы БССР Аляксандры Якаўлеўне Цярэнцьевай, чалавеку, глыбока захопленаму, удастоенай за сваю пошуковую і героіка-патрыятычную работу ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга і сярэбранага медаля ВДНГ СССР.

Не адзін дзень праведзены ў музеі за вывучэннем дакументаў саветаў ветэранаў, успамінаў удзельнікаў баёў за Віцебск, падараваных імі мемуараў, якія не заўсёды сустрэнеш у вялікай бібліятэцы, перапіскі з ЦАМА ў Падольску, з сем'ямі воінаў, даследаванняў актывістаў. Ёсць што расказаць у кнізе "Памяць".

Напрыклад, "Недапітая вада" — расказ аб перапахаванні астанкаў воінаў, у час якога краязнаўцы знайшлі салдацкую біклажку з пакінутай у ёй вадой, пра маці, якія пішуць пісьмы на магілы сыноў... "Імя на помніку" — экскурсавод расказвае: "А вось фота Абіралка, ён загінуў"; з групы ветэранаў: "А Абіралка — гэта я!..", "Вайна ў пісьмах брата" — Віктар Казарынаў пайшоў на вайну, загінуў у баі, малодшы яго брат сабраў усе пісьмы старэйшага, пераплёў у кнігу... "Чалавек з легенды" — застаўся жывым герой, які паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава... "Зорка героя" — як старшы лейтэнант К.М.Чапурны са сваім батальёнам біў фельдмаршала фон Бока... І яшчэ: "Гавораць загінуўшыя героі", "Помніць Віцебск Захадзякіна...".

Але ў "Памяці" не толькі лёсы тых віцяблян, якія пайшлі на вайну, і сыноў былога шматнацыянальнага Саюза, удзельнікаў абароны і вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гэта, перш за ўсё, старонкі ваеннай гісторыі Віцебска. Адзін з раздзелаў кнігі мяркуецца назваць "270 дзён і начэй" — прыкладна столькі стаяў фронт пад Віцебскам. Гэты тэрмін адмераў у акопах разам з аднапалчанамі і напісаў матэрыял "Ад Віцебска да Порт-Артура" генерал З.Н.Усачоў, камандзір 262-й стралковай дывізіі. Успаміны іншых камандзіраў часцей і злучэнняў, якія вызвалялі Віцебск, выявіў у архівах Віцебскага гарваенкамата В.Л.Асіпенка. Яны падрыхтаваны да друку.

Сярод нештатных аўтараў творчага калектыву — М.Ф.Крывёнак. Безумоўную цікавасць уяўляюць напісаныя ім матэрыялы на аснове "Ваеннага дзённіка" Ф.Гальдэра, аб абароне Віцебска ў ліпені 1941 года, а таксама рэдкія дакументы з яго хатняй калекцыі, звязаныя з гісторыяй нашага горада. Да супрацоўніцтва прыцягваюцца іншыя аўтары, ветэраны, старажылы.

Ёсць пад Віцебскам тры вышыні, якія мелі важнае стратэгічнае значэнне для наступаўшых войск і адзначаныя нябачным гераізмам воінаў: — Ціхмянаўская (па прозвішчу камандзіра батарэі), 27-мі "віцебскіх панфілаўцаў" і 222,9. Аб штурме апошніх дзвюх А.Я.Цярэнцьева сабрала багаты матэрыял, у тым ліку ўспаміны генерала А.П.Квашніна, камандзіра 17-й гвардзейскай стралковай дывізіі, помнік воінам якой стаіць на палітай крывёю соцень салдат і камандзіраў вышыні 222,9, што па дарозе ў аэрапорт.

Тры гераічныя вышыні. На кожнай — абеліск, даніна мужнасці, стойкасці і ўменню вызваліцеляў горада. Аб гэтым і "Узяцце "Мядзведжага вала" — успаміны (альбом) начальніка штаба 17-й гвардзейскай стралковай дывізіі палкоўніка М.Г.Карака, якія ён, паміраючы, завяшчаў музею ў Варонах.

Асобая старонка ў ваеннай гісторыі горада і асобны раздзел: "Чэрвень 1944-га. Вызваленне". Вызваленне прыйшло ў выніку вядомай беларускай наступальнай аперацыі "Баграціён", якая пачалася віцебскай аперацыяй 39-й і 43-й армій і завяршылася пасля прарыву глыбокаэшаланіраванай абароны немцаў віцебскім "катлом" для пяці пяхотных дывізій гітлераўцаў.

Непасрэдна ў "лоб" Віцебск брала 158-я стралковая дывізія палкоўніка Д.І.Ганчарова, паўночна-заходнія і паўднёва-ўсходнія кварталы горада штурмавалі палкі 145-й і 262-й стралковых дывізій генералаў П.А.Дзібровы і З.Н.Усачова. Аб тых баях знойдзены новыя сведчанні.

Падзеі па разгрому віцебскай групоўкі ворага, кароткі баявы шлях злучэнняў, якія асабліва вызначыліся пры вызваленні горада, паўстануць у шэрагу асобных матэрыялаў.

Галоўныя героі дакументальных публікацый — воіны, абаронцы і вызваліцелі. Аб іх верш "Пад Віцебскам" Аляксандра Пегава, удзельніка баёў за горад:

Захватчики у всех стволов
на "мушке",
Но вы в атаке помнили
всегда,
Что как бы метко
ни разили пушки —
Пехота занимает города.
В сырых окопах мерзли вы
и мокли,
Крутые вам достались берега.
И вы, конечно,
не через бинокли
Читали ярость на лице врага.

**У.ГАЛДЗІЛАЎ.**



Працавітых людзей у калгасе "Запаветы Ільіча" Віцебскага раёна многа. Сярод іх — Аляксандр Барысавіч Прастакоў. Працуе ён шафёрам. Аўтамашына не падводзіць вадзіцеля — беражэ і ўмела эксплуатуе ён тэхніку.

А ў час уборкі збожжа Аляксандр Барысавіч пераходзіць з аўтамашыны памочнікам камбайнера. І на гэтай рабоце працуе выдатна.

На здымку:: А. Б. Прастакоў.

Фота А. КОГАЛЯ.

### ♦ ЗАМЕЖНЫ ДРУК ПРА НАС

## У Еўропу ў новай якасці

Дэлегацыя маладых віцебскіх палітыкаў з апазіцыі наведала Германію. Госці на працягу тыдня знаёміліся ў Нінбургу з мясцовым самакіраваннем. У прадстаўнікоў нямецкага боку ёсць цвёрдая ўпэўненасць, што дэмакратычнай апазіцыі ўдасца "памяняць старыя структуры і дасягнуць уласных мэт".

Нінбургская газета "Дзі Харкэ", якая змясціла справаздачу аб знаходжанні нашых землякоў на нямецкай зямлі пад загалоўкам "Палітыкам з апазіцыі ў Віцебску патрэбна дапамога ў справе дэмакратыі канкрэтная і хуткая", коратка пазнаёміла сваіх чытачоў з удзельнікамі дэлегацыі, з іх выказваннямі аб асноўных задачах і мэтах дэмакратычных сіл. Прыводзяцца словы Ігара Цішкіна: "Мы жадалі б вярнуцца ў Еўропу дэмакратычнай дзяржавай". А што, без дапамогі канкрэтнай і хуткай звонку гэты працэс, як кажуць, не пойдзе

(Наш кар.).

## НУ І «ЖАРТАЧКІ» ПАНА БУТКЕВІЧА

**У Кастрычніцкі раённы суд Віцебска з заявай аб знявазе гонару і годнасці звярнулася намеснік дырэктара Віцебскага электратэхнікума сувязі Г.П.Барэйка. Прычынай паслужыла публікацыя ў "Народнай газеце" артыкула яе ўласнага карэспандэнта С.Буткевіча, у якім ён, прадставіўшы сур'ёзнае мерапрыемства "палітычнай камедыяй", не толькі сказіў факты, але і абразіў некаторых асоб.**

**Вось чаму мы звяртаемся ў "Віцебскі рабочы" з просьбай надрукаваць наша пісьмо. Няхай чытачы ведаюць праўду.**

У "Народнай газеце" за 12 лістапада была надрукавана карэспандэнцыя пад кідкім загалоўкам "Камуністычная камедыя, або Несцерка — натхняльнік і арганізатар". Аўтар, былы член КПСС С.Буткевіч, вядомы цяпер як адзін з самых заўзятых антыкамуністаў-журналістаў, расказаў чытачам аб падзеях, што мелі месца ў Віцебску 5 і 7 лістапада. Расказаў, як яму самому думаецца, у іранічна-сатырычным стылі, поўнасцю вытрымаўшы бэнээфаўскі накірунак асвятлення некаторых гістарычных падзей жыцця. А паколькі прабіцца на радыё, тэлебачанне, на старонкі такой масавай газеты, як "НГ", з матэрыяламі, якія б асвятлялі дзейнасць партый і рухаў сацыялістычнай накіраванасці, няма ніякай магчымасці, то і за такую, прабачце, "рэкламу" вялікае дзякуй, пан Буткевіч. Менавіта ж з вашай публікацыі чытачы "Народнай газеты" даведаліся, што ў Віцебску існуе і дзейнічае Партыя камуністаў Беларусі, якая разам з іншымі патрыятычнымі сіламі правяла ўрачысты сход і шматлюдны мітынг у гонар 76-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у час якіх віцябляне рашуча выказаліся супраць той палітыкі, якую праводзяць цяперашнія ўлады па курсу, вызначанаму бравымі малайцамі з Беларускага народнага фронту і чыім песняром вы, пан Буткевіч, на сённяшні дзень з'яўляецеся.

Пішыце сабе, папісвайце... Тым больш, што за антыкамунізм цяпер плацяць не менш, чым за прапаганду ідэй камунізму, якой вы ў свой час паспяхова займаліся на пасадзе загадчыка аддзела абласной камуністычнай газеты. Не трэба толькі скажаць факты, несці лухту, зневажаць і ганьбіць паважаных людзей.

Пачнём з самага першага абзаца. У ім вы сцвярджаеце, што **"ўпершыню за паўвекавую гісторыю камедыі "Несцерка" ёй папярэднічаў урачысты сход камуністаў Віцебска, прысвечаны чарговай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі".** Дробязная няпраўда, але ўсё роўна непрыемна. Па-першае, гэта быў сход працоўных горада Віцебска, а не толькі камуністаў, а, па-другое, цудоўны спектакль "Несцерка" з захапленнем глядзелі ўдзельнікі многіх, падкрэслім гэта слова, многіх урачыстых пасяджэнняў, "прысвечаных чарговай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. І ніхто ніколі не называў смехуна Несцерку "важаком пралетарыяту". Гэта "адкрыццё" ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве робіць С.Буткевіч. На якую фальсіфікацыю не пойдзеш дзеля таго, каб правесці сваю ідэйку. І далей: **"Адміністрацыя тэатра не дала дазвол на поўны рэгламент мерапрыемства... Пасля чаго невялікай групе юнакоў і дзяўчат уручылі камсамольскія білеты. Састарэлы партэр жвава апладзіраваў. Галёрка, запоўненая выпадковымі турыстамі, "ошалело улыбалась..."**

Два апошнія словы мы не сталі нават перакладаць на беларускую мову, каб чытачы змаглі больш дакладна ўявіць лінгвістычна-стылістычную "ўзнёсласць" артыкула. Калі ж сур'ёзна, то гэта абраза. Справа ў тым, што і ў "састарэлым партэры", і на галёрцы, і на балконах (зала была перапоўнена) прысутнічалі не нейкія там "выпадковыя турысты", а прыбыўшыя па запрашальных білетах упаўне прыстойныя грамадзяне. І калі б С.Буткевіч асабіста прысутнічаў на сходзе, пра які так "красамоўна" напісаў, то быў бы сведкам, як уся зала, а ў ёй, дарэчы, было вельмі і вельмі многа моладзі, на працягу ўсяго часу, пакуль уступіўшым у рады ЛКСМБ уручалі членскія білеты, гарачай авацыяй вітала смелых юнакоў і дзяўчат. Так, так, смелых, бо гэта Буткевіч і яму падобныя ўступалі ў рады КПСС, калі ім гэта было выгадна, а выходзілі з яе, каб замацаваць цёплае месца пры новай уладзе.

Што ж датычыцца сцвярджэння аб тым, што **"адміністрацыя тэатра не дала дазвол на поўны рэгламент мерапрыемства"**, то гэта таксама хлусня. Згоду не даў адзін чалавек — дырэктар і мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Маслюк. У апошнюю хвіліну (мяркуем, што пад націскам бэнээфаўцаў) Валерый Васільевіч зрабіў усё магчымае, каб сарваць правядзенне сходу. І гэта нягледзячы на тое, што пытанне з адміністрацыяй было ўзгоднена загадзя, быў аплачаны не толькі спектакль, але і арэнда глядзельнай залы з 18 да 19 гадзін — за гадзіну да яго пачатку, — аб чым ёсць адпаведны дакумент.

Вы, пан Буткевіч, пішаце (тут і далей, каб захаваць стылістыку аўтара, цытаты будзем прыводзіць на мове арыгінала), што "театр возмутился бестактностью организаторов политбеседы". Не трэба падмяняць паняцці. Калі за што і абурыліся акцёры, то толькі за тое, што дырэктар, ён жа і мастацкі кіраўнік, паспешліва перанёс пачатак спектакля з 19 на 18 гадзін. Каб перашкодзіць правядзенню ўрачыстай часткі.

Правакацыя не ўдалася. Артысты і зала знайшлі згоду, выканаўцам роляў быў зроблены такі цёплы прыём, на іх долю выпала столькі апладысментаў, колькі драмтэатр даўно ўжо не бачыў і не чуў.

Злы жарт, пан Буткевіч, з вамі сыграў не толькі закон жанру, які абавязвае журналіста аб сур'ёзных падзеях пісаць ва ўсякім разе не мовай фельетона, а ваш пячорны антыкамунізм. Нагода абліць граззю ненавісную вам кампартыю настолькі ўзрадавала вас, што вы нават забыліся ўдакладніць факты. Толькі разводзіш рукамі, калі чытаеш у допісе месца пра бедных навучэнцаў тэхнікума сувязі. З якой патэтыкай задаяце вы сваё сакраментальнае пытанне: "С какой стати на местах, оплаченных техникумом для просвещения юношества, сидели по приглашению горкома ПКБ бывшие и нынешние функционеры и общественные активисты старой и "обновленной" компартии? Чей же все-таки был "культпоход"?"

Не раім вам ліць кракадзілавы слёзы, бо ніякіх грошай ні за спектакль, ні за арэнду глядзельнай залы тэхнікум сувязі не плаціў. Не плаціў! Так што пакіньце "бедных" навучэнцаў у спакоі. Як і іх паважаную выкладчыцу Галіну Пятроўну Барэйка. Дарэчы, вы яе чамусьці назвалі яшчэ і сакратаром райкома. Спецыяльна даводзім да вашага ведама, што сакратаром райкома Галіна Пятроўна ніколі не была.

Не было ў зале ні былых, ні тым больш цяперашніх партфункцыянераў. Былі людзі, якія не здрадзілі найвялікшай ідэі сацыяльнай роўнасці і справядлівасці, не здрадзілі свайму сумленню, у цяжкіх умовах разгорнутага антыкамунізму змагаюцца за лепшую долю для простага чалавека. Тыя ж, каго вы маеце на ўвазе, верай і праўдай служаць бэнээфу і яго лялькаводам з-за мяжы, пакідалі толькі свае партыйныя білеты, але не ўтульна-мяккія кіраўніцкія крэслы. Ім усё роўна, каму служыць і якому богу маліцца. Урэшце, як і вам, пан Буткевіч. Толькі б плацілі грошы! Функцыянераў жа ў цяперашняй, ачышчанай ад здраднікаў і пярэваратняў партыі камуністаў няма. Працуюць яны толькі за сумленне.

І апошняе. Вы і вам падобныя адным з самых сур'ёзных папрокаў Савецкай уладзе прад'яўляеце абвінавачванні ў масавых рэпрэсіях трыццатых гадоў. Сапраўды, такая трагічная старонка ў нашай гісторыі была. Пасля смерці Сталіна партыя пазбавілася гэтай хваробы і заганы. На працягу сарака гадоў ніякіх расстрэлаў па ідэйных матывах у нашым жыцці не было. Не было, пакуль не з'явіліся народныя франты, пакуль на з'явіліся "крамлёўскія танкісты", пакуль не з'явіліся журналісты, ухваляючыя гэтыя франты і гэтых "танкістаў", ухваляючыя дзеянні ўлад, якія арганізавалі генацыд супраць народа, пакуль не з'явіліся "інтэлігенты", якія пішуць палітычныя даносы на сваіх калег.

Прабачце, але тое, што вы напісалі пра Галіну Пятроўну Барэйка, інакш як даносам не назавеш. Не можа быць, што вы, пан Буткевіч, не ведаеце аб культывуемай у нашай рэспубліцы дэпалітызацыі школы: сярэдняй і вышэйшай. І тым не менш даносіце, што "не злоупотребляет ли она своей служебной властью и педагогическим авторитетом во имя пропаганды марксизма-ленинизма среди юных воспитанников". Паведамляеце, "что во вверенном ей техникуме бережно сохраняется наглядная агитация былой однопартийной системы".

Прыкра ўсё гэта.

**А.АНДРЭЕЎ,**
**інжынер СКБ ЗШ і ЗС.**
**М.ЧАСНЕЙШЫ,**
**настаўнік, дэпутат Віцебскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.**

**Л.САРАТОКІН,**
**журналіст.**

# «НЯЎЖО ТАБЕ 60, ДЗЕД?»

## =ПОБАЧ З МАЙСТРАМ=

**Антракт.** У акцёрскім фае зычны смех. Аказваецца, Георгій Савельевіч — галоўны выканаўца монаспектакля, які разыгрывае для сваіх калег па працы. Эмацыянальна, захапляюча расказвае, відаць, чарговую гісторыю, сведкам якой ён быў, ці нешта смешнае (камедыйнае) з прачытанага або ўбачанага, ці проста анекдот. І не проста расказвае, а іграе, раскрываючы і паказваючы розныя чалавечыя характары. Цудоўная якасць — прыкмячаць, запамінаць, класці ў сваю акцёрскую скарбонку і ў патрэбны момант выкарыстоўваць гэта пры стварэнні сцэнічных вобразаў — адметна вылучае Георгія Савельевіча сярод кагорты таленавітых артыстаў-коласаўцаў.

**Перад рэпетыцыяй.** На тым жа самым "лобным месцы" — у акцёрскім фае — чутны голас Георгія Савельевіча, таксама прыўзнята эмацыянальны. Праўда, тут ужо пануе зусім іншая, супрацьлеглая атмасфера. Абуральна, з болем выказваюцца справядлівыя думкі ў адрас нейкай бязглуздзіцы ў нашай рабоце ці ў адрас парламентарыяў, якіх даўно трэба разагнаць, бо займаюцца яны пустой балбатнёй. І зноў жа цікава быць сведкам такой спрэчкі ці маналога, бо гэта заўсёды ярка, трапна, вобразна.

Але найчасцей можна бачыць нашага юбіляра засяроджаным, чалавекам "у сабе", які ўмее не толькі расказваць, але і слухаць іншых з прыжмурам і чорцікамі ў вачах, з усмешкай на вуснах. І аднначасова курыць. Але гэта ўжо на лесвіцы, каля акна. І ў тым, як ён курыць, таксама праяўляецца яго індывідуальнасць. Ён не проста "смаліць". Ствараецца ўражанне, што ён — чалавек неабыякавы да таго, што адбываецца навокал, "закурвае" як наркотыкам нейкую чарговую жыццёвую несправядлівасць, недарэчнасць...

**Рэпетыцыя.** Адна з рыс, якая вылучае яго сярод калег: за 28 год сумеснай працы (мы з Георгіем Савельевічам прыйшлі ў коласаўскі тэатр у адзін год) не памятаю, каб ён спазніўся на работу. Пастаянная падрыхтаванасць, гатоўнасць да рэпетыцыі. Артыст, у якога ярка выражаны не толькі камедыйны, а і драматычны талент. Ён надзелены дарам псіхалагічнага пранікнення ў сутнасць любой ролі, здольнасцю асэнсоўваць выказаныя раней заўвагі, парады рэжысёра, адразу рэалізоўваць іх і спасцігаць ролю, ствараючы вобраз. Георгій Савельевіч — з тых акцёраў, якім не трэба многа і даскапала "разжоўваць", "дрэсіраваць". Наадварот, неабходна ўмець адбіраць, рассартоўваць яго хатнія загатоўкі, прапановы і, галоўнае, прафесійна накіроўваць творчую энергію, фантазію акцёра ў патрэбнае рэчышча. І калі артыст сустракаецца ў жыцці з такім рэжысёрам — талент яго раскрываецца ва ўсёй квецені. Прыкладам можа паслужыць чарговая сустрэча Георгія Савельевіча з прафесіяналам высокага класа Б.У.Эрыным. Мне пашанцавала быць сведкам (у якасці рэжысёра-стажора) рэпетыцый спектакляў, у якіх быў заняты юбіляр: "Жыды горада Піцера" (Пінскі), "Шчаслівае здарэнне" (Стары)...

**Спектакль. (Сустрэча з гледачом).** Нічога выпадковага, усё прадумана ў грыме, касцюме, рэквізіце. Усё нясе сэнс, думку. Пануе імправізацыя ў ігры і, галоўнае, заўсёды поўная творчая аддача, незалежна ад таго, дзе іграе, на якой сцэне, колькі ў зале чалавек, якое сёння ў яго самаадчуванне. І гэта дзякуючы педагогу Дз.Арлову, які вучыў: "У зале заўсёды ёсць хоць адзін глядач, які разбіраецца ў творчасці. Іграйце так, быццам я ў зале". Гэты запавет любімы вучань Дз. Арлова праносіць праз усё творчае жыццё.

**Паміж спектаклямі і рэпетыцыямі. (Вольны ад работы час).** На працягу многіх гадоў Георгій Савельевіч дзякуючы сваім чалавечым і прафесійным якасцям выбіраўся і зараз з'яўляецца членам мастацкай рады тэатра. І той факт, што пры тайным галасаванні ён заўсёды ўзначальвае спіс тых асоб, якія набіраюць больш за астатніх "за" сведчыць аб аўтарытэце, якім ён заслужана карыстаецца ў сваіх калег па працы.

**Па-за сценамі тэатра. (Сям'я).** Вядома, што і драму, і трагедыю трэба рэпеціраваць, іграць з добрым творчым і радасным настроем. Дык вось, Георгію Савельевічу Дубаву можна пазайздросціць не толькі ў творчым плане. Яму пашанцавала, што больш за 30 гадоў побач з ім крочыць па жыцці калега, сябра, жонка — заслужаная артыстка Беларусі Т.Р.Шашкіна — добры, чулы, інтэлігентны чалавек, надзейная апора, якая стварае ўсе ўмовы, каб муж мог займацца творчасцю. І не толькі творчасцю...

**Адпачынак. (У выхадны дзень).** Адно з захапленняў, на якое Георгій Савельевіч траціць амаль увесь вольны ад работы час, ды і грошы, гэта кнігі, газеты, часопісы. Усё апошняе, новае, цікавае, што з'яўляецца ў друку, — "праглынае" з прагнасцю. Часам спытаеш у бібліятэцы які-небудзь кніжны дэфіцыт, а ў адказ чуеш: "Ваш Дубаў ужо ўзяў...".

Калі вы захацелі сустрэцца з Георгіем Савельевічам у выхадны — дарэмна. Ён пераўвасабляецца ў дачніка. А тут таксама праяўляе індывідуальнасць. Гаспадыня расказвае: "Толькі ўчора расло дрэва, а сёння ўжо няма. Навёў "парадак", не параіўшыся"...

**Нашчадак.** Кажуць, па дзецях можна меркаваць, якія бацькі. Сын Генадзь — сама сціпласць, дабрыня (а гэта таксама якасці!). Боскі дар у наш жорсткі час. Праўда, сціплы, але ў межах разумнага: ужо падарыў юбіляру ўнука.

"Дзед, няўжо табе 60?" — са здзіўленнем пытаецца не толькі ўнук, але і ўсе, хто любіць, паважае і чакае чарговай сустрэчы з народным артыстам Беларусі Георгіем Дубавым.

Баляслаў СЯЎКО,
заслужаны артыст Беларусі.



Фота Г.ЖУКАВА.

**Ад рэдакцыі.** Калектыў супрацоўнікаў газеты "Віцебскі рабочы" віншуе Георгія Савельевіча Дубава з днём нараджэння і жадае яму натхнення ў творчасці, шчасця, здароўя і радасці. А нашым пастаянным чытачам, якія жадаюць унесці грашовыя ахвяраванні юбіляру, паведамляем разліковы рахунак Фонда сацыяльнай абароны акцёраў тэатра імя Якуба Коласа: № 000700506 у Галоўным упраўленні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, МФО 150801006 (з пазнакай "Бенефіс народнага артыста Беларусі Г.С.Дубава"). І прыходзьце на бенефіс, які адбудзецца 28 снежня ў 18 гадзін. Вас чакае і Георгій Савельевіч, і ўвесь творчы калектыў коласаўцаў.

## Калонка АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ

### ...І ПАСЛАЛІ НАС ДА МЯНЯЛЫ

Вуліца Гагарына ў Віцебску — адна з самых перагружаных транспартам магістраляў. А там, дзе аўтамабілям "цесна", заўсёды чакай аварый. І невыпадкова дарожна-транспартныя здарэнні адбываюцца тут часцей, чым на іншых вуліцах абласнога цэнтра.

"Мала таго, што ў нашым мікрараёне і загазаванасць паветра большая, і жыццё пешаходаў пад пастаяннай пагрозай, — піша ў рэдакцыю М.У.Пашкевіч, — дык яшчэ ў дадатак апошнім часам на канцавым прыпынку трамвая перастаў працаваць святлафор. Дакладней, увесь час гарыць зялёнае святло для аўтамабіляў, пешаходам жа вуліцу немагчыма перайсці. Раней, як і належыць, ён пераключаўся. Пастаіш, пачакаеш, пакуль запаліцца зялёны ліхтар, і спакойна пераходзіш... Вось ужо шэсць год я ваджу дзіця з садзіка "Бураціна". Там ёсць нерэгулюемы пешаходны пераход, але я не памятаю, каб хоць хто з вадзіцеляў спыніўся перад "зебрай" і прапусціў нас... Пішу з надзеяй, што і ДАІ, і іне тэхнічныя службы звернуць увагу на названыя недахопы і ў хуткім часе выправяць становішча".

Зразумець Мікалая Уладзіміравіча нескладана. Пераходзячы вуліцу, штодзень рызыкаваць жыццём — занятак не з прыемных. І тым больш трапляць у такую сітуацыю, калі, як піша аўтар, "легкавушкі-іншамаркі не едуць па дарозе, а літаральна ляцяць". А мы ж ведаем, хто сядзіць за рулём падобных машын. Пераважна — маладыя зусім людзі, якія не маюць ні дастатковага вопыту ваджэння, ні асаблівага жадання паважаць іншых удзельнікаў дарожнага руху. А ў дадатак, як сведчыць тое ж ДАІ, нярэдка і на падпітку...

Як бачым, уся загвоздка ў тым, для каго запалена зялёнае святло. А яно, як сцвярджае віцябчанін І.Т.Цеплякоў, гарыць сёння толькі для выбранага кола людзей. Для тых, хто паспеў і працягвае ўзбагачацца за кошт астатніх. Для тых, хто нажываецца на спекуляцыі. Для тых, каму, даруйце, пляваць на сумленне і мараль. Для тых, хто з уражальнай лёгкасцю здрадзіў ідэалам, якім служыў (а дакладней, да якіх у свой час прысмактаўся) доўгія гады... Зараз у нашым Вярхоўным Савеце ідуць гарачыя спрэчкі па праекту новай Канстытуцыі рэспублікі, працягвае аўтар. У Расіі пытанне наконт Савецкай улады вырашылася з дапамогай танкаў. А як будзе ў нас? Ці застануцца Саветы як органы народаўладдзя? Або яны будуць абслугоўваць толькі так званую эліту? Такая небяспека існуе, бо ўжо сёння чытаеш некаторыя газеткі, якія выходзяць пад патранажам Саветаў, і не разумееш, яны за народную ўладу ці за ўладу прайдзісветаў?

Максім Багдановіч пісаў некалі: "Усё жыццё цяпер, як лёгкая завея..." Той верш яго — лірычны зварот да каханай. Сёння час куды больш жорсткі і да лірыкі не вельмі прыстасаваны. "Усё жыццё цяпер, як цяжкае пытанне", — скажам мы. Нават як дзесяткі пытанняў, на якія няма адказу.

Вось і яшчэ адно. У рэдакцыю звярнулася І.С.Чарнуха. На Новы год яна збіраецца ехаць у Маскву. Днямі пайшла ў чыгуначныя касы, каб загадзя набыць білет, бо інакш за спекулянтамі, якія вывозяць усё ад нас у Расію, не праб'ешся. Але білет ёй купіць не ўдалося — касір запатрабавала расійскія рублі.

"А дзе іх узяць? — ад нечаканасці спытала ў яе Ірына Сцяпанаўна.

"Гэта ўжо ваша справа..."

"Я, канечне, магла б памяняць грошы тут жа, ля магазіна "1000 дробязей" або ў іншым месцы, — працягвае далей І.С.Чарнуха, — але мянялы запрудзілі сёння ўсе "гарачыя" кропкі ў горадзе. Дык ці можна існуючую ўладу назваць сваёй, калі яна замест абароны інтарэсаў грамадзян рэспублікі адсылае іх да крымінальных мянял?.."

У.ТАЛЯРОНАК.

◆ *ПАРАДОКСЫ ЖЫЦЦЯ*

## Ці ён ёсць, ці яго няма...

Дэпутат датэрмінова склаў паўнамоцтвы. Такое бывае: перамена месца жыхарства, новая пасада, якая па закону не сумяшчальная з дэпутацтвам і г.д. Нарэшце, народны абраннік, як і любы з нас, можа памерці, трапіць у "гісторыю". Што тады трэба рабіць? Па Канстытуцыі неабходна назначыць выбары новага дэпутата па свабоднай акрузе.

Такая акруга з'явілася ў Віцебску. Аднак выбараў не будзе. Так вырашыў прэзідыум аблсавета. Аргументы наступныя: да заканчэння паўнамоцтваў цяперашняга саставу абласнога Савета засталося не так многа часу; узнікнуць складанасці з агітацыяй — людзі, баючыся крымінальных элементаў, могуць і дзверы не адчыніць агітатарам; насельніцтва згубіла веру, што ад дэпутата можа быць нейкая карысць. Ды і сродкаў лішніх для правядзення перадвыбарнай кампаніі саміх выбараў няма. Заўважым, агульны каштарыс расходаў перавысіў бы мільён трыста тысяч рублёў.

Можа, і мае рацыю прэзідыум, прыняўшы такое рашэнне. Хаця ўсё ж варта было б спытаць і думку саміх выбаршчыкаў.

А.ВІХРОЎ.

## ЧЫТАЧ-ГАЗЕТА

### І камерцыйная аптэка...

*Мы ўжо прывыклі да слова "камерцыйны". Камерцыйныя турпаездкі, магазіны, ларкі... Нядаўна ў Віцебску з'явілася і камерцыйная аптэка. Вестка аб ёй ужо разнеслася па гораду, але хацелася б даведацца аб усім з першых вуснаў.*

А.ПАНЦЯЛЕЕВА.

г. Віцебск.

Карэспандэнт "Віцебскага рабочага" пабываў у камерцыйнай аптэцы і запрасіў да размовы дырэктара закрытага акцыянернага таварыства "Інтэрфарм", у склад якога яна ўваходзіць, Р.І.Туркоўскага.

**— Рамуальд Іосіфавіч, чым была выклікана неабходнасць стварэння такой аптэкі?**

— Перш за ўсё вастрэйшым дэфіцытам лекавых прэпаратаў. Дзяржаўныя датацыі і пастаўкі аптэкам зменшаны. Забяспечанасць лякарствамі па Віцебскай вобласці складае на сённяшні дзень 20 працэнтаў. Акрамя таго, з'явілася шмат жадаючых пажывіцца за кошт некампетэнтнасці хворых. Лякарствамі гандлююць з рук, і, здараецца, не тымі, якія патрэбны. Не выключана, што замест седалгіна (болесуцяшальны сродак) вы атрымаеце сенадэ (паслабляльнае).

У нас жа працуюць прафесіяналы. Усе лякарствы праходзяць уваходны кантроль, закупляюцца і рэалізуюцца ў адпаведнасці з медыцынскімі нормамі, правільна захоўваюцца, кантралююцца тэрміны іх рэалізацыі. Заключаны дагавор з кантрольна-аналітычнай лабараторыяй і пры неабходнасці лякарствы можам адправіць на праверку.

**— Усё, як у звычайнай аптэцы?**

— У сэнсе медыцыны, так.

**— У чым жа тады розніца?**

— Мы — камерцыйная структура. Значыць, і атрымліваем тавар не з дзяржаўных фондаў, а самастойна. У цяперашні час лякарствы паступаюць да нас праз камерцыйныя структуры з іншых дзяржаў.

**— Ці ёсць цяпер у аптэцы вострадэфіцытныя лякарствы?**

— Усё, што ў нас ёсць сёння, вострадэфіцытнае. Напрыклад, баралгін, бронхаліцін, астматычныя сродкі, цінідазол і інш.

**— Ці азначае гэта, што вы арыентуецеся на набыццё толькі дэфіцытных сродкаў?**

— Не, мы хочам, каб у нас было ўсё.

**— Падазраю, што чытачы даўно ўжо чакаюць пытання аб цэнах...**

— Магу супакоіць тых, хто думае, што цэны ў нас неймаверна высокія. Яны прымальныя. А па шэрагу пазіцый і ніжэй, чым у дзяржаўных аптэках. Напрыклад, куранціл у звычайнай аптэцы каштуе 8 тысяч рублёў, у нас — 4 тысячы, парацэтамол адпаведна 50 і 40 рублёў. Прыходзьце і самі пераканаецеся.

**— Па чулых адносінах да людзей вашых супрацоўнікаў, ветлівых і кампетэнтных адказах на тэлефонныя званкі можна меркаваць, што вы хочаце ўнесці перамены і ў абслугоўванне кліентаў.**

— Несумненна. Аптэка функцыяніруе крыху больш за месяц, а ў нас у кнізе водгукаў, якая, дарэчы, ляжыць на відным месцы і ніколі не ўбіраецца, ёсць ужо словы падзякі. 58-гадовая пенсіянерка А.Б.Шалуха піша: "Вялікае дзякуй супрацоўнікам аптэкі за тое, што ў цяжкую для мяне мінуту дапамаглі набыць дэфіцытнае лякарства, вельмі хутка, культурна абслужылі". І такі запіс не адзіны. Пішуць людзі і пра тое, што хацелі б бачыць у нас.

**— Камерцыйная аптэка з'яўляецца звяном у структуры пад назвай "Інтэрфарм". Што гэта за структура і чым яна будзе займацца ў далейшым?**

— Сапраўды, адкрыццё аптэкі — толькі першы крок, які мы зрабілі. "Інтэрфарм" — гэта змешаная форма ўласнасці: 45 працэнтаў — дзяржуласнасць, 55 працэнтаў належыць камерцыйным структурам.

З часам, а я ўпэўнены, што вельмі хутка мы будзем прымаць заказы па тэлефоне на ўсе дазволеныя лякарствы. З І квартала толькі для медработнікаў мы прадаём акцыі. Плануем адкрыць тэлефон надзеі. З IV квартала 1994 віцябляне змогуць выкарыстаць паслугі пластычнай хірургіі па еўрапейскай тэхналогіі. Наогул, планаў у нас шмат і работы наперадзе нямала. Ужо цяпер у аптэцы можна памераць ціск, тэмпературу, гэта значыць, прайсці даўрачэбны агляд.

**— Ці не чыняць перашкод вашай дзейнасці дзяржаўныя структуры?**

— Не, мы сустракаем падтрымку і АПА "Фармацыя", і ў гарадскім аддзеле аховы здароўя.

**— Дзякуй, Рамуальд Іосіфавіч, засталося толькі паведаміць ваш адрас і тэлефон.**

— Калі ласка. Калі ўзнікне неабходнасць, мы вас чакаем па вул. Чкалава, 25, кор. 1. Тэл. 1-88-16.

### Штраф за аўтаматы

*Часта даводзіцца сустракацца з пашкоджанымі тэлефонамі-аўтаматамі, асабліва ў той момант, калі неабходна тэрмінова пазваніць. Я маю на ўвазе зламысную порчу апаратаў. Ці ёсць за гэта якія пакаранні?*

У.БІЛЬКІН.

г.Віцебск.

Зламыснае пашкоджанне або знішчэнне тэлефонаў-аўтаматаў цягне за сабой спагнанне штрафу да пяці мінімальных зарплат. Прынамсі, так запісана ў адным з апошніх рашэнняў абласнога Савета народных дэпутатаў. Ну, а дзейнасць мер, прымаемых да парушальнікаў, безумоўна, залежыць ужо ад праваахоўных органаў ды і ад нас з вамі.

# Нявыдуманыя гісторыі

### Сустрэча на аўтастанцыі

Мы чакалі аўтобуса, які праз паўгадзіны павінен быў адправіцца ў адзін з далёкіх раёнаў нашай вобласці. Дзень быў суботні, багаты на пасажыраў. Але на нашай плацоўцы пакуль стаяла ўсяго некалькі чалавек: купка смяшлівых дзяўчат, якія не зважаючы на мароз, апетытна елі марожанае, малады хлопец у шыкоўных ботах і фірмовых джынсах з цыгарэтай у зубах, вясковая кабета з кошыкам, відаць, толькі што з базару ці з магазіна, і ён, цыбаты мужчына, які стаяў воддаль, засунуўшы рукі ў кішэні даволі ўжо добра паношанай курткі. На нагах былі лёгкія чаравікі, на галаве з трусінага футра шапка з апушчанымі вушамі. Сапраўды, было даволі марозна, а чалавек, па ўсім відаць, доўга стаяў на пляцоўцы, чамусьці не хацеў пагрэцца ў памяшканні аўтавакзала. Хоць, калі гаварыць шчыра, там асабліва і не пагрэешся.

Чалавек саграваўся тым, што амаль увесь час тупаў нагамі, зрэдзь паціраў рукі, а потым зноў хаваў іх у кішэні лёгкай курткі.

— Аўтобус будзе ў дванаццаць? — спытаў нарэшце мужчына ў хлопца, які смачна пускаў колцы дыму.

— Так, у дванаццаць, — адказаў той, а праз якую хвіліну, спытаў: — А ты што, першы раз едзеш?

— Першы. Ніколі не быў у вашых краях. І на гэтым аўтавакзале ўпершыню... Холадна тут у вас, марозна.

— А адкуль будзеш?

— Здалёку. У нас там намнога цяплей. Таму і трасуся тут, у вас, нібы заяц пад кустом.

Чалавек дастаў з кішэні пачак танных цыгарэт, закурыў.

— А што цябе нясе ў наш край? — пацікавіўся хлопец у джынсах.

— Калі, вядома, не сакрэт.

— Сакрэту ніякага няма, хоць справа і далікатная.

Мужчына на нейкі час змоўк, як бы абдумваючы, што сказаць гэтаму цікаўнаму хлопцу.

— Еду да бацькоў будучай жонкі, — адказаў нарэшце ён. — Калі, вядома, спадабаюся ім. А калі не прыйдуся да двара, вярнуся назад. Не хачу навязвацца ў зяці: прызнаюць — значыць, маё шчасце.

— А дзе ж нявеста? Чаму едзеш адзін?

— О, гэта далікатная справа. Яна пакуль што ехаць не можа, бо знаходзіцца на вольным пасяленні. Асуджаная. Але хутка вызваліцца.

Моцна зацягнуўшыся цыгарэтай, мужчына працягваў:

— Мы з ёй паўгода сустракаліся, кахаліся. А цяпер во прыйшоў час вырашаць, як жыць далей. Рашылі ехаць да яе, бо ў нас чарнобыльская зона. І хоць усе прадукты дзешавай і плацяць "грабавыя", але не захочаш мець гэтую прыбаўку, калі ўсялякія хваробы лезуць у арганізм.

Хлопец ужо нічога не пытаў, слухаў, зацягваючыся цыгарэтай, споведзь незнаёмага чалавека. Міжволі захацелася спытаць, за што суд пакараў жанчыну, адправіў яе на пасяленне. Але гэта было б ужо занадта. Мы і так ужо шмат чаго ведалі пра незнаёмых людзей, якія, магчыма, на новым месцы пачнуць новае жыццё.

### Бацькаў кажух

Учора бабуля Наста занесла ў магазін апошніх "зайчыкаў": купіла хлеба, малака, слоік смятаны. А што рабіць далей? Пенсія яшчэ далёка, пазычыць якую сотню ў суседкі Алены таксама не выпадае, бо сама ледзь зводзіць канцы з канцамі, а ў Шчарбакоў, што жывуць на паверх вышэй, і снегу зімой не пазычыш. Рэчы, без якіх можна абысціся, прадала раней. Узяла за іх мала, бо яны былі не новыя, трохі паношаныя. І купілялі іх таксама такія ж гаротніцы, як і Наста. Бо каму з багатых ды маладых патрэбны сённяшняя старамодная сукенка ды такое ж паліто, хто пагоніцца за сынавымі бушлатам і ботамі, якія ён пакінуў дома, вярнуўшыся з арміі, а сам падаўся ў заробкі на Поўнач. Як ён там жыве, невядома, бо пісьмы піша рэдка, а грошы не прысылаў ні разу. Відаць, не дужа раскашуецца на той Поўначы, інакш як Іванка знайшоў бы якую лішнюю сотню для маці.

Дачка таксама жыве асобна, хоць і ў адным горадзе. Калісьці, атрымліваючы новую кватэру, яна ўгаварыла маці кінуць вёску і пераехаць да яе. Але доўга не ўжыліся: давялося тую новую кватэру разменьваць на дзве: маці дастаўся пакойчык з падсяленнем, сям'я дачкі атрымала двухпакаёўку. Пасля размену кватэры дачка і зяць забылі да старой дарогу.

Яшчэ і яшчэ раз прыкідваючы, што можна было б прадаць, Наста прыйшла да вываду, што засталася адна рэч, якая ёй непатрэбна, — бацькаў кажух. Пашыў яго даўным-даўно стары Лейба. Бацька, жывучы ў вёсцы, вельмі шанаваў абнову, апранаў новы кажух толькі ў святы, а ў будні дні карыстаўся старым, трохі ўжо аблезлым, пацёртым, у лапіках на рукавах. Але грэў ён яшчэ добра. А Лейбаў быў амаль што новы, шырокі і доўгі ўнізе, добра прылягаў да плячэй. Калі даводзілася апранаць новы кажух, асабліва ў далёкую дарогу, бацька заўжды ўспамінаў старога Лейбу.

І вось Наста рашыла назаўжды развітацца з гэтым бацькавым кажухом, бо іншага выйсця ў яе не было. Звязаўшы яго старой хусткай, яна пашыбавала на так званы рэчавы рынак, дзе прадавалася ўсё — ад іголкі да аўтамабіля замежнай маркі.

Выставіўшы навідавоку свой тавар, жанчына чакала пакупнікоў. І яны неўзабаве з'явіліся.

— Колькі просіце за кажух? — спытаў малады чалавек, якога трымала пад руку юная асоба.

— Дзесяць тысяч, — адказала Наста.

— Што? — аж затрэслася ад хвалявання мажная, але немаладога ўжо веку жанчына. — Я даю пятнаццаць.

Маладая пара памкнулася адцясніць нахабніцу, якая нечакана перайшла дарогу. Але зрабіць гэта было амаль немагчыма. Пачалася спрэчка, валтузня, бо такі танны кажух, з якога можна было зрабіць цудоўную дублёнку, яны бачылі ўпершыню. Бабуля, відаць, прыехала з нейкай далёкай глухой вёскі і не ведала сучасных цэн.

Прадчуваючы, што неўзабаве будзе калатэча, падышло яшчэ некалькі чалавек, хутчэй за ўсё не пакупнікоў, а разявак. Так бацькаў кажух стаў у цэнтры увагі.

І калі маладая пара і мажная жанчына ўжо хапаліся загрудкі, Наста рапатам сказала:

— Не, кажух я не прадаю. Гэта ж бацькава і Лейбава памяць. — І пачала звязваць яго той жа старой хусцінкай.

Нядаўнія пакупнікі яшчэ доўга лаяліся.

### Хворы

Вяселле было ў разгары. Ужо другі дзень крычалі "горка!", гаварылі тосты, пілі за маладых, сватоў і гасцей. І раптам аднаму з іх стала блага. Яго хуценька завялі ў суседні маленькі пакойчык, паклалі на канапу крыху адпачыць. Але госцю станавілася ўсё горш і горш. Хтосьці з жанчын прапанаваў пакласці яму на галаву кампрэс. Прынеслі хусцінку, змачылі яе вадой. Кампрэс амаль нічым не дапамог: з закрытымі вачыма хворы цяжка дыхаў, у яго, як пацвердзіла адна з лекарак пачаў прападаць пульс.

Тады рашылі неадкладна выклікаць "хуткую дапамогу". Паслалі маладога шафёра да тэлефона, бо там, дзе спраўлялі вяселле, яго не было. А госць тым часам стагнаў усё больш і больш, круціў галавой, не адкрываючы вачэй. Па ўсім было бачна, што жыць яму засталося мала. Тым не менш на галаву клалі ўсё новыя і новыя кампрэсы, хтосьці прынёс таблеткі, хтосьці шчупаў пульс.

І ў гэты крытычны момант у пакойчык завітаў ужо немалады, але добра падпіты мужчына. Ён схіліўся над хворым госцем, паглядзеў на тых, хто імкнуўся аблягчыць яго пакуты, і сказаў, як адрэзаў:

— Канчайце вы ўсе гэта. Хіба не бачыце, што чалавек паміpae. Вып'ем за яго вечны спак...

І не паспеў ён дагаварыць слова, як хворы імгненна падхапіўся з канапы, схапіў мужчыну за горла і пачаў душыць са словамі:

— Мы яшчэ паглядзім, хто паміpae, за чый вечны спакой будзем піць...

У гэты час у пакой увайшла брыгада "хуткай дапамогі". Урач і медсястра ніяк не маглі ўцяміць, каго ім ратаваць.

Уладзімір СКАПА.



# Пошта НЕСЦЕРКІ

◆ ПАД ВУГЛОМ 40 ГРАДУСАЎ

## «Пагарэльцы» з адной вёскі

### Дыялог, якога не было, але які мог упаўне адбыцца

Пелагея Мачыха. Ці помніш, галубка, як у нас, у Вярхоўі, трэслі самагоншчыкаў на досвітку гарбачоўскай перабудовы і раней, га? І ў сельсавет на "п'яную" камісію цягнулі, як бычка на павадку ў хлеў, і ў раён на допыт, галавамыйку валаклі. А з участковым колькі непрыемнасцей перажылі. Матляшыліся самагонныя прычындалы, вялася надакучлівая, як восеньская муха-назола, прафілактыка.

Надзея Шут. Сягоння мала што памянялася. Камісій тых няма, затое па судах цягаюць. Забоўтаеш веселуху, гоніш, а сэрцайка тах ды тах: а раптам? Пра Двор Нізгалава, набось, чула? Мікалай Бокіш заварыў брагу, і на поўную катушку ашрафавалі мужыка. Знясцавілі, лічы, на ўвесь раён.

П.М. А пра сябе сорамна сказаць? Пра тое, якія пагардлівыя позіркі кідаюць вяскоўцы. Пайшоў, маўляў, "пагарэлец", горам прыцісну́ты. Тут ужо патыліцу не проста пяцярнёй лёгенька пачухаеш — шкрэбці трэба з усяе сілы.

Н.Ш. Не сып, як ты мовіла, галубка, соль на свежыя раны. Баліць, ай, баліць душа. Мяне ж таксама сівадзёр злашчасны падвёў. Самагонная брага бухцела ого-го як у біклазе, думала, во затор удасца. І на табе, як гром сярод яснага неба, службовец у строгай форме з панятымі: "Гонім, гаспадыня?"

П.М. А ты што?

Н.Ш. А нічога. Давялося раскашэльвацца.

П.М. Ну якраз як мне. Трэба "завязваць" з гэтым промыслам, да дабра не давядзе ён.

Н.Ш. І папярэдзіць усіх, каго яшчэ не акруціў медны халадзільны гад: не расчыняйце, людцы, брагу. Лепей раскіньце мазгамі, у што вам градуснае зелле абыдзецца.

М.ШЭДЗЬКАЎСКІ.
Бешанковіцкі раён.

◆ МАЛЮЕ А. ДАРАГАКУПЕЦ




◆ МАЯ ПЕРАПІСКА

**АЛЯКСАНДРУ БАДЗЮ, г.Віцебск, вул. Шырокая, д. 34 А, кв. 6.**

Вы рынуліся ў наступ на бухгалтэрыю племзавода "Крынкі" Лёзненскага раёна не зусім абгрунтавана. Па-першае, як мне стала вядома з размовы з намеснікам галоўнага бухгалтара Фаінай Аляксандраўнай Сучковай, акт прыёмкі-здачы аб'екта, які вы ўзводзілі па дагаворы, яшчэ не падпісаны, а ўжо патрабавалі выплачваць грошы за выкананую работу. Па-другое, на сваім рахунку ў банку ў той момант племзавод не меў ніводнай капейкі.

Цяпер жа племзавод разлічыўся з вамі, Аляксандр Ісаевіч, спаўна. І вам не давядзецца больш ездзіць з Віцебска ў "Крынкі", каб выбіць сумлена зароблены рубель.

**СКІПАРУ, СТРЭЛЬЧАНКУ, АХРАМЕНКУ, ІНШЫМ ЖЫХАРАМ ВЁСКІ ЧАРНАРУЧЧА ЭКІМАНЬСКАГА СЕЛЬСАВЕТА ПОЛАЦКАГА РАЁНА.**

Са зместам вашай скаргі я пазнаёміў Леаніда Рыгоравіча Дзёмінава, начальніка раённага вузла сувязі. Ён паабяцаў неадкладна разабрацца ва ўсім.

**М. С-ВУ, Г.ОРША.**

Цалкам згодзен з вамі: брудам акуруваюць трубы ў розных гарадах. Ухваляю вашы ідэі аб змяншэнні шкодных выкідаў у паветра. Шкада, што пад пісьмом няма подпісу. Быў бы ліст не ананімны, абавязкова трапіў бы на газетную паласу.

**К.В., Г.П. БЕШАНКОВІЧЫ.**

Не вы адзін сігналізуеце мне аб нездавальняючай рабоце вашых камунальнікаў. А што ж улады на месцы, чаму ніхто не пачухаецца нават той жа гарадской лазні, якая рамантуецца ці не з году ў год?

Несцерка.

◆ З ЗАЛЫ — СЮДЫ!

## Хмель падвёў

Можна было б цябе, шаноўны Несцерка, крышачку папракнуць: а чаму гэта ў тваёй пошце больш пра радавых людзей пішацца? А дзе чыноўны люд, начальнікі вялікія, малыя? Яны што, не п'юць, не крадуць, не ўвязваюцца ў бойкі? Ой, яшчэ як!

Паслухай вось гісторыю пра ветэрынарнага фельчара з калгаса імя Энгельса, што на Шумілінshчыне, Сяргея Весялкова. Хлопец малады, перспектыўны. На вытворчасці паспеў сябе зарэкамендаваць са станоўчага боку. Афіцыйна характарызуюць спяца — лепш не трэба. Мусіць, пагадзіўся б з гэтым, калі б не каша, якую ўзяў ды заварыў Весялкоў разам з Юрыем Шыркуновым, разам і расхлёбваў яе.

У кашы той крымінальны прысмак. Акаселі хлопцы ад градуснага пойла і давай зводзіць рахункі з В.Ануфрыевым, аднавяскоўцам. Хмель настолькі адурманіў мазгі азвярэлым малойцам, што яны адправілі небараку на той свет, а сябе — на мулкую лаўку падсудных. Народны суд Шумілінскага раёна ўляпіў Весялкову 6 гадоў 6 месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму, 3 гады 6 месяцаў не бачыць волі Шыркунову.

К.ТРАФІМЕНКА,
наш нештатны карэспандэнт.

# Усміхнёмся?

Амерыканскі вынаходца Томас Эдысон для вырашэння адной праблемы зрабіў 860 доследаў, але ўсе яны былі дарэмныя. "Бязрадасны вынік", — падрахункаваў адзін з ягоных супрацоўнікаў. "Зусім наадварот, мой дарагі сябар, — не пагадзіўся Эдысон. — Я ведаю цяпер 860 шляхоў, якімі няварта ісці".

***

Франц прыйшоў са школы ўсхваляваны. "Сёння настаўнік нас спытаў аб чымсьці, што толькі трое хлопцаў змаглі адказаць". "Сапраўды так? І адным з іх, канечне, быў мой дарагі Франц?" "Але, мама, двума іншымі былі Ганс Зінгер і Карл Пётцэ". Гэта мяне вельмі радуе, сынок. А што спытаў настаўнік?" "Хто разбіў шкло ў гімнастычнай зале?"

***

У калумбійскай сталіцы Багата здзічэлы бык прарваўся ў двор казармы і яго ніяк нельга было злавіць. Нарэшце прыгналі сюды карову з сельскагаспадарчай выстаўкі і павялі яе затым да выхаду праз вароты. Бык ахвотна прыпусціўся за ёй.

Пераклад з нямецкай.

# НОВЫ ПАГРАНІЧНЫ ПЕРАХОД

"Пясчатка — Полацы" пачаў дзейнічаць з 6 снежня ў Камянецкім раёне. Як падкрэсліў намеснік начальніка мытні "Заходні Буг" Мікалай Свірыд, ён адкрыты ў выніку дагаворанасцей паміж урадамі Беларусі і Польшчы.

Мытны пост у Пясчатцы аснашчаны ўсім неабходным абсталяваннем і будзе працаваць у кругласутачным рэжыме, што дасць магчымасць значна разгрузіць усім вядомы АКПП "Варшаўскі мост".

Белінфарм.

# Ходзяць чуткі, што...

...з ганаровай місіяй — дапамагчы мясцовым зладзеям замятаць свае сляды прыбыў у Лепель жыхар Ушацкага раёна С.Харашкевіч. Візіт госця завяршыўся сумна: ён быў выкрыты ў тым, што прырабіў на скорую руку ногі скарасному матацыклу "Ява". Місіянер учыніў крадзеж з мясцовым жыхаром.

...новы профіль навучання можа з'явіцца ў Пастаўскім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы № 165. Каўтнуўшы алкагольнага дурману, хлопцы ўхапіліся за чубы і давай мясіць адзін аднаго кулакамі. У інжынерна-педагагічным калектыве сцвярджаюць, што некаторыя забіякі валодаюць прыёмамі адзінаборстваў куды лепей, чым прамудрасцямі агульнаадукацыйных і спецыяльных прадметаў.

..."ноч адкрытых дзвярэй" праведзена ў магазіне вёскі Асіпова, што на Лёзненшчыне. З гэтых самых дзвярэй (ці з акон) невядомыя пакуль зладзеі вывалаклі 20 кілаграмаў цукру, 25 бляшанак кансерваў "Кілька ў тамаце", мужчынскую куртку, 500 пачак цыгарэт "Палёт", 2 дываны, буйную суму "зайчыкаў"... Пажывіліся спрытнюгі!

...за чужую нутрыевую шапку добранька шандарахнуць цяпер па шапцы двум навучэнцам Новалукомльскага СПТВ-83. Недарослі не толькі абрабавалі небараку, але і налупілі яму гузакоў і сінякоў.

♦ КРЫМІНАЛЬНЫ СЮЖЭТ

# НЕПАДСУДНЫ

Суд не заўсёды ідзе каляінай абвінаваўчага заключэння. У гэтым выпадку следства кваліфікавала дзеянні падследнага па артыкулу 106 Крымінальнага кодэкса (наўмысна цяжкае цялеснае пашкоджанне, якое выклікала смерць). Суд — па 109-му (перавышэнне межаў неабходнай абароны). Касацыйная інстанцыя прыйшла да іншай высновы: чалавек наогул не падсудны, бо мусіў абараняцца ад небяспечных злачынных замахаў, што ў яго самога жыццё вісела на валаску.

Як вавёрка ў коле, круцілася "справа" ў розных судах, абрастала новымі падрабязнасцямі, выпрабоўвала на злом нервы і падсуднага, і пацярпеўшых. Прыгаворы абвяшчаліся, але па розных прычынах адмяняліся. На жаль, яшчэ далёка не ва ўсіх нашых пракурораў і суддзяў зжыты заганны стыль: вінаваты — і ўсё тут, трэба караць і як мага больш строга. А між тым строгасць — не ўсё яшчэ. Далёкая і блізкая гісторыя — таму пацвярджэнне. Ці задумваўся хто з нас аб тым, чаму гэта ўрачам забаронена нават у выпадках самай небяспечнай, смяртэльнай хваробы спыняць пакуты паміраючага? На першы погляд, гэта якраз самае гуманнае рашэнне, самае разумнае выйсце. Дык не ж, законам гэта забаронена, прафесійнай этыкай таксама.

Чаму ж? Ды таму што — а раптам? А раптам здарыцца, што чалавек нечакана выздаравее. Столькі яшчэ непазнанага ў гэтым дзіўным і таямнічым стварэнні Прыроды.

Яшчэ адзін нюанс. А што, урач не мог памыліцца, вызначаючы дыягназ?

Штосьці падобнае і ў юрыдычнай практыцы. Хіба не можа рэцыдывіст-макрушнік стаць прыстойным чалавекам, пазбавіцца ад мінулых цяжкіх грахоў? Хіба не можа спрацаваць засцерагальнік, уманціраваны ў кожнага з нас Усявышнім, скажам, у сталым узросце? Вось і тут гэтае "а раптам", якое не можа не ўлічвацца, не прымацца судом да ўвагі. Зразумела, у найстражэйшых рамках закона і толькі закона.

Мы некалькі адхіліліся ад тэмы размовы. Вернемся да крымінальнай справы Аляксандра Сапяжынскага, маладога рабочага БМП-169 г.Віцебска.

Выносячы прыгавор, суды правільна ўстанаўлівалі абставіны справы. Выпісаўшыся надоечы з бальніцы, Сапяжынскі сабраўся і паехаў у Сенненскі раён праведаць цешчу. Яна дала зяцю бутэльку спірту з сабой — пахмяліцца. Аляксандр запіхнуў дарунак за рамень, выпіў чарку-другую і, задаволены, развітаўся з раднёй, не падазраючы, зразумела, якую ролю адыграе гэтая злашчасная пляшка ў вызначэнні ягонага лёсу.

Ідучы па вуліцы "Чырвоны Кастрычнік" у Сянно разам з цяжарнай жонкай і чатырохгадовым дзіцем, ён сустрэў трох незнаёмых хлопцаў. З адным з іх — А.Стайновым не размінуўся. Успыхнуў канфлікт, які перарос у бойку. Дапамагаў Стайнову збіваць Сапяжынскага А.Іваноўскі.

Не з палахліўцаў аказаўся Сапяжынскі. Абараняючыся ад раз'ятраных хлопцаў, ён адбег да машыны, якая стаяла непадалёку, выхапіў з-пад курткі бутэльку, разбіў яе аб бампер. "Не падыходзьце, буду абараняцца", — рэзка папярэдзіў Аляксандр, размахваючы шкляной "ружай". Стайнова пагроза не спыніла, ён зноў коршакам накінуўся на Сапяжынскага. Апошні ўдарыў напаўшага шкляным асколкам і параніў, як сказана ў заключэнні судова-медыцынскай экспертызы, пярэднюю паверхню правага бядра. Раненне прывяло да масіўнай страты крыві, і Стайноў памёр.

Была ўзбуджана крымінальная справа. Следства кваліфікавала дзеянні Сапяжынскага па артыкулу 106 Крымінальнага кодэкса (наўмыснае цяжкае цялеснае пашкоджанне, небяспечнае для жыцця, якое нанесла смерць. — Рэд). Суд перакваліфікаваў дзеянні падсуднага на 109 артыкул (перавышэнне межаў неабходнай абароны. — Рэд.). Зразумела, мера пакарання па розных артыкулах розная.

Цяпер павінна была сказаць сваё слова касацыйная інстанцыя. Зноў разбіралася крывавая сутычка ў дэталях, "прасвечваліся" знешне нязначныя акалічнасці, але яны ў канчатковым выніку праяснілі многае. Судовая калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда не пагадзілася з кваліфікацыяй народнага суда.

Якія падставы для разыходжання пазіцый? Згода з артыкулам 13 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, не з'яўляецца злачынным дзеянне, учыненае пры абароне асобы ад грамадска небяспечнага замаху шляхам прычынення напаўшаму шкоды, калі пры гэтым не дапушчана перавышэнне межаў абароны. Дык Сапяжынскі перавысіў гэтыя межы ці не? Калі пераступіў грань дазволенага — значыць, абараняўся неадпаведным небяспецы чынам. Калі не — тады наогул няма саставу злачынства, чысты перад законам і ўласным сумленнем.

Як устаноўлена па справе, Стайноў і Іваноўскі прысталі да Сапяжынскага; насілле, якое яны прымянілі, стварала рэальную небяспеку яго здароўю. Да ўсяго Сапяжынскі папярэджваў нападаючых, што будзе абараняцца, але гэта іх не ацвярэзіла, асатанелыя ад алкаголю спрабавалі даказаць сваю правату кулакамі. Прыняты да ведама і іншыя акалічнасці, якія ў сукупнасці далі судовай калегіі па крымінальных справах абласнога суда зрабіць выснову: Сапяжынскі дзейнічаў у стане неабходнай абароны і не перавысіў яе межы. На гэтай падставе прыгавор раённага суда ад 14 красавіка 1993 года ў адносінах Аляксандра Сапяжынскага быў адменены, і справа вытворчасцю спынена з-за адсутнасці саставу злачынства.

Кропкі над "і" расстаўлены, як кажуць. Але давайце яшчэ хоць крышачку паразважаем над тэмай гэтых нататкаў. У апошні час чалавек часта застаецца адзін на адзін з рабаўнікам, злодзеем, рэкецірам, гвалтаўніком. Таму ў грамадскай думцы ўсё часцей паўстае пытанне аб самаабароне пры свабодным прымяненні адпаведных сродкаў, аж да зброі.

Лагічна? Безумоўна. Хіба можна ставіць знак роўнасці ў ахове правоў законапаслухмяных грамадзян, якія, разыкуючы ўласным жыццём, процістаяць злачынным праяўленням, і асоб, якія свядома ўчыняюць злачынствы? Думаецца, не. Усё-такі патрэбен акцэнт на максімальную абарону правоў і інтарэсаў тых, хто хай сабе нават шляхам прычынення шкоды напаўшым спыняе злачынства.

Нельга не заўважыць і таго, што само паняцце неабходнай абароны ў тэорыі крымінальнага права досыць няпэўнае, размытае. Яно скоўвае ініцыятыву грамадзян у барацьбе з агрэсіўнымі замахамі — а што калі раптам не падразлічу сілы? Тады сам траплю ў лік злачынных элементаў, сам мушу адбельвацца перад тварам следства і суда? А ці не задужа вялікія гэта маральна-псіхічныя і фізічныя нагрузкі?

Вось на які роздум наводзіць згаданы крымінальны сюжэт, зрэшты, не рэдкасць у цяперашняй юрыдычнай практыцы.

Мы разумеем, што даная тэма далёка не вычарпана, патрабуе грунтоўнага асэнсавання. У юрыдычнай літаратуры яна абмяркоўваецца. Роскід думак досыць шырокі. Нам асабіста імпануе, напрыклад, наступны пункт гледжання. Калі ў Крымінальным кодэксе захоўваецца паняцце "Перавышэнне межаў неабходнай абароны", то варта было б устанавіць, што пры спыненні замахаў на жыццё, здароўе, свабоду чалавека, палавую свабоду жанчыны, уласнасць і іншыя аб'екты крымінальная адказнасць за перавышэнне межаў неабходнай абароны не наступае.

Ну, а пакуль што, абараняючыся, вы павінны памятаць, што нельга пераступаць дастатковыя межы, што грань, якая ляжыць паміж "перавышэннем" і правамерным прычыненнем шкоды ў такім стане, не заўсёды адчувальная. Таму і не выключаны прыкрыя судовыя выдаткі, накшталт тых, якія падпільнавалі Аляксандра Сапяжынскага.

М.СЕМУКОЎ,
член Віцебскага абласнога суда.

М.ПРЫГОЖЫ,
кар. "Віцебскага рабочага".




## Дэкаратыўныя расліны зімой

Многія садаводы-аматары вырошчваюць пладовыя і дакаратыўныя расліны не толькі ў садзе, але і ў кватэрах. Зімой ім вельмі не хапае святла, таму мэтазгодна на адлегласці не бліжэй 50 -- 60 см ад расліны падвесіць лямпы дзённага святла або звычайныя электрычныя і перыядычна ўключаць іх на пэўны час. Падсвечванне вельмі карысна для раслін. Яно падоўжыць іх цвіценне.

Каб расліны не пакутавалі ад сухасці паветра, на вокны ставяць слоікі з вадой. Шкодныя для пакаёвых раслін і скразнякі. Таму пры праветрыванні пакоя расліны прыкрываюць газетамі або пераносяць у іншае месца.

# СТАЛОВЫЯ БУРАКІ

Сарты сталовых буракоў вельмі разнастайныя: ёсць познаспелыя засухаўстойлівыя і хуткаспелыя холадаўстойлівыя. Важнай асаблівасцю сталовых буракоў з'яўляецца добрая захоўваемасць караняплодаў, што дазваляе круглы год выкарыстоўваць іх у свежым выглядзе.

У соку буракоў утрымліваюцца вітаміны С, В1, В2, РР, пантатэнавая і фоліевая кіслоты, а таксама значная кольказць вітаміну Р, які ўмацоўвае капіляры і папярэджвае ломкасць крываносных сасудаў.

Побач з цукрамі і вітамінамі ў караняплодах сталовых буракоў ёсць карысныя для арганізма чалавека яблычная, вінная і лімонная кіслоты, мінеральныя рэчывы, неабходныя для пабудовы тканак цела чалавека, якія актыўна ўдзельнічаюць у абмене рэчываў (кальцый, фосфар, калій, сера, натрый, магній, жалеза). Буракі займаюць адно з першых месц сярод агародніны па ўтрыманню ёду.

Дабратворнае спалучэнне вітамінаў, солей, цукраў, актыўных рэчываў выдзяляе буракі з рада астатняй агародніны як важны дыетычны прадукт. Сок буракоў, а таксама працёртыя караняплоды маюць важнае значэнне ў дзіцячым харчаванні і ў харчаванні пажылых людзей (пры гіпертанічнай хваробе, захворваннях страўніка і печані, цукровым дыябеце).

У ежу ўжываецца і маладое лісце буракоў. У ім, дарэчы, вітамінаў у два разы больш, чым у караняплодах.

Раяніраваныя ў Беларусі сарты — "Бардо 237", "Пушкінскія плоскія К-18", "Холадаўстойлівыя 19".

Лепшымі папярэднікамі для буракоў з'яўляюцца культуры, пад якія ўносіліся арганічныя ўгнаенні: цыбуля, агуркі, ранняя бульба, капуста, памідоры. Сяўбу праводзяць добра ачышчаным, і адсартаваным насеннем з 80-працэнтай усходжасцю. Трэба мець на ўвазе, што сталовыя буракі ў фазе маладых саджанцаў часта пашкоджвае каранаед. Таму насенне перад пасевам трэба пратруціць прэпаратам ТМТД з разліку 8 г на 1 кг насення. Для паскарэння ўсходаў сяўбу праводзяць намочаным ці наклюнутым насеннем. Глыбіня задзелкі насення на лёгкіх глебах 3 — 4 см, на больш цяжкіх — 2 — 3 см. Шырыня міжрадкоўяў — 45 см. Сяўбу звычайна праводзяць крыху пазней за моркву, у добра прагрэтую глебу (аптымальная тэмпература для прарастання насення 10 — 11° С). Пры больш нізкай тэмпературы (+ 4° С) насенне можа доўгі час знаходзіцца ў глебе не прарастаючы і не трацячы ўсходжасці. Усходы вытрымліваюць невялікія замаразкі да мінус 2 — 3° С. Аднак працяглыя нізкія тэмпературы могуць выклікаць стралкаванне буракоў і страту ўраджаю. З гэтай прычыны пад зіму высяваюць толькі сарты, якія не ідуць у стрэлку.

Буракі — расліна доўгага дня. Таму месца трэба падбіраць сонечнае (інакш ураджай будзе меншы, а якасць караняплодаў горшая). Глеба найбольш прыгодная з глыбокім ворным слоем, лёгкая, не кіслая, сярэднесуглінкавая або супясчаная, багатая арганічнымі рэчывамі.

Першым прыёмам догляду пасеваў буракоў з'яўляецца барацьба з глебавай скарынкай. Пры з'яўленні 3 -- 4 сапраўдных лісточкаў праводзяць прарэджванне і праполку. Пры першым прарэджванні расліны пакідаюць на адлегласці 3 -- 4 см адну ад другой. Расліны, выдаленыя з градкі, можна выкарыстоўваць у якасці пасадачнага матэрыялу. Для гэтага іх пікіруюць на зараней падрыхтаваныя і добра ўвільготненыя месцы. Своечасовае прарэджванне вельмі важнае. Калі гэтага не зрабіць, расліны будуць прыгнятаць адна другую, замаруджваць рост. Другое прарэджванне праводзяць, калі буракі прыгодныя на пучковую прадукцыю. Адлегласць паміж раслінамі пакідаюць 8 -- 10 см.

Падкормліваюць сталовыя буракі двойчы. Першы раз адразу ж пасля прарэджвання. Уносяць на 1 м$^2$ па 5 -- 6 г аміячнай салетры, 6 -- 7 г гранулянага суперфасфату і 5 -- 7 г хлорыстага калію. Другую падкормку робяць праз 15 -- 20 дзён пасля першай тымі ж угнаеннямі. Лепш прымеркаваць іх да міжрадковай апрацоўкі. Пры першай падкормцы ўгнаенні ўносяць на адлегласці 7 -- 8 см ад радка на глыбіню 5 -- 7 см, пры другой — 8 -- 10 см ад радка на глыбіню 7 -- 10 см.

Не трэба забываць, што буракі больш вільгацелюбівая расліна, чым морква. Лісце іх мае больш выпаральную паверхню і адносна малую паверхню каранёў, якія ўпітваюць вільгаць, таму пры засушлівым надвор'і буракі патрабуюць паліву.

Убіраюць буракі да замаразкаў. Аднак калі па нейкай прычыне гэтага не зрабілі, то караняплоды трэба акучыць. Пры мінус 7° С у зямлі яны не пацерпяць. Капаюць караняплоды ў сухое надвор'е, абразаюць бацвінне ўпоравень з галоўкай і, крыху падсушыўшы на паветры, адразу ж закладваюць на захоўванне. У склепе іх можна пакласці зверху бульбы, выпарэнні якой будуць падтрымліваць неабходную вільготнасць для захоўвання буракоў. Але лепш захоўваць караняплоды ў поліэтыленавых мяшках, не дапускаючы доступу паветра. Дачнікі, якія не маюць падвалаў і скляпоў, могуць захоўваць буракі ў буртах ці любых халаднаватых памяшканнях.

### ШКОДНІКІ І ХВАРОБЫ БУРАКОЎ

Бурачная муха. Шкодзяць жаўтаватыя лічынкі, выядаючы мякаць ліста і пакідаючы скурку. На лісці ўтвараюцца ўздутыя плямы, спачатку светлыя, затым жоўтыя. Моцна пашкоджанае лісце вяне, жаўцее і засыхае.

Зімуюць кукалкі ў глебе. Вясной мухі вылятаюць, у пачатку чэрвеня самкі адкладваюць яйцы радамі на ніжні бок ліста. У час яйцакладкі і ў пачатку адраджэння лічынак апырскваюць расліны 0,2-працэнтным хларафосам або карбафосам (20 г на 10 л вады), другое апырскванне праводзяць праз 10 — 12 дзён.

**Бурачныя блошкі.** Шкодзяць дробныя чорныя жукі з бронзавым ці зеленаватым адценнем. Яны выядаюць на лісці адтуліны, часам пашкоджваючы кропку росту і выклікаючы гібель раслін. Лічынкі жывуць у глебе і харчуюцца карэннямі раслін сямейства грэчкавых і маравых. Зімуюць жукі пад апалым лісцем, раслiннымі рэшткамі ў глебе.

Меры барацьбы: правядзенне агратэхнічных мерапрыемстваў, якія паскараюць рост і развіццё раслін; знішчэнне пустазелля; апырскванне раслін 0,2-працэнтным хларафосам у перыяд масавага з'яўлення блошак (20 г на 10 л вады).

**Грыбныя хваробы.** Каранаед пакоджвае парасткі і ўсходы буракоў, выклікаючы загніванне карэньчыкаў і каранёвай шыйкі. Пашкоджаныя ўсходы адстаюць у росце, на сцябле ўтвараецца перацяжка, расліны палягаюць і гінуць. Часта пашкоджаныя парасткі гінуць, не дасягаючы паверхні глебы. Усходы рэдкія. Узбуджальнікамі з'яўляюцца глебавыя грыбы. Інфекцыя перадаецца з насеннем. Добрая і своечасовая апрацоўка глебы, запраўка яе арганічнымі і мінеральнымі ўгнаеннямі, унясенне вапны на кіслых глебах, рыхленне глебы, своечасовы высеў і задзелка насення на аптымальную глыбіню — вось асноўныя меры барацьбы з грыбнымі хваробамі.

**Плямістасць лісця** (цэркаспароз) пашкоджвае лісце і чаранкі, а ў насеннікаў сцёблы і каляплоднікі насенных клубочкаў. На лісці з'яўляюцца дробныя круглаватыя плямы з чырвона-бурай каймой. У вільготнае надвор'е і пры моцнай расе на плямах утвараецца шэраваты налёт. Пашкоджваецца ніжняе, больш старое лісце. Маладыя лісточкі звычайна не пашкоджваюцца. На чаранках і сцяблінах насеннікаў паяўляюцца прадаўгаватыя, крыху ўдаўленыя плямы з цёмнай каймой. Інфекцыя захоўваецца на раслінных рэштках і пустазеллі, пашкоджаных цэркаспарозам.

Меры барацьбы: унясенне поўнага мінеральнага ўгнаення з пераважаннем калійнага. Пры выяўленні першых прыкмет захворвання праводзяць апырскванне раслін 1-працэнтнай бардоскай вадкасцю або адным з яе заменнікаў (0,3-працэнты цынеб, 0,3-працэнтны хлорвокіс медзі). Апрацоўку паўтараюць 2 -- 3 разы за лета.

**Несапраўдная мучністая раса** (перанаспароз) пашкоджвае маладое лісце буракоў першага года і насеннікі (лісце, чаранкі, прыкветкі і суплоддзі). Хворае лісце бялее, скручваецца краямі ўніз, патаўшчаецца, становіцца ломкім. З ніжняга боку ліста паяўляецца шаравата-фіялетавы налёт. З цягам часу пашкоджанае лісце адмірае. У хворых насеннікаў кветаносныя парасткі слаба развіваюцца, скрыўляюцца і адміраюць. Інфекцыя захоўваецца на пашкоджаных раслінных рэштках, у матачных караняплодах і перадаецца з насеннем.

Мерамі барацьбы з'яўляецца вырошчванне здаровых матачнікаў, для чаго выдаляюцца ўсе хворыя расліны з участкаў, дзе іх будуць адбіраць; апырскванне раслін тымі ж прэпаратамі, што і супраць цэркаспарозу.

Каб на вашых бураках не было шкоднікаў і яны не хварэлі, трэба чаргаваць культуры, змагацца з пустазеллем, убіраць і знішчаць раслінныя рэшткі, глыбока перакопваць участак пасля ўборкі ўраджаю. На насеннікі адбіраць толькі здаровыя караняплоды. Перыядычна аглядаць і выдаляць хворыя, завядаючыя насеннікі.

## Узелки на память

• Первая задача садовода при выпадении снега — надежно укрыть землянику. Для снегозадержания ее густо покрывают ветками лесных деревьев и кустарников, желательно несъедобных для грызунов — тополя, осины, ивы, клена, смородины, липы, березы и др. Используют плетеные щитки, штакетник, чтобы предотвратить сдувание снега с земляники.

• Для борьбы с мышами отаптывают снег около штамба. Делают это обычно в оттепель или при выпадении мокрого снега. В течение зимы отаптывание повторяют несколько раз.

• В начале зимы, когда резко падает температура воздуха, возможно повреждение морозом корней деревьев, особенно пострадавших от морозов в прошлом. Для защиты таких деревьев от мороза вокруг них максимально сохраняют выпавший снег или насыпают его с других мест.

• До наступления сильных морозов заготавливают черенки сливы, груши, яблони для прививки этих деревьев весной. В качестве черенков режут сильные однолетние ветки длиной 40—50 см с хорошо развитыми почками, связывают их в пучки строго по сортам с прикреплением проволокой надежной этикетки с четкой надписью.

• Этикетку делают из алюминиевой, цинковой или пластмассовой пластинки, на которой простым карандашом или несмываемой краской пишут название сорта. Привязывают этикетку к пучку побегов тоненькой проволочкой, но не бумажной веревкой. В противном случае веревка может перепреть, этикетка потеряться и черенки окажутся обезличенными.

• Черенки заворачивают в мешковину и кладут на расчищенную от снега площадку. Затем на черенки набрасывают снег и уплотняют его. Для предохранения от мышей мешок с черенками заворачивают еще в мелкую металлическую сетку.

• Место для хранения черенков обычно выбирают с северной стороны сарая или другой хозяйственной постройки. В этом месте таяние снега весной будет протекать наиболее медленно.

◆ СПОРТ

# МАЛАЙЦЫ, ДЗЯЎЧАТЫ!

Менавіта такія словы хочацца сказаць у адрас гэтых валейбалістак — выхаванцаў Віцебскай СДЮСШАР-4 гарадскога аддзела адукацыі. І не толькі...

Цудоўная васьмёрка, якую вы бачыце на здымку разам са сваім трэнерам, дабілася выдатнага поспеху, выступаючы на рэспубліканскім чымпіянаце ў Оршы. Шэсць дзяўчынак непасрэдна займаюцца ў СДЮСШАР-4 ў трэнера В.А.Стрыжака. Гэта Оля Яшчанка, вучаніца 9 класа СШ №15, васьмікласніца СШ № 39 Таня Kуліні́ч, дзевяцікласніцы Аксана Стрэмужэўская (СШ №11) і Марына Любачка (СШ №33), васьмікласніцы сярэдняй школы № 39 Іра Лебедзева і Оля Шчурко. А вось Юля Гірыловіч ужо студэнтка першага курса педінстытута факультэта фізічнага выхавання. У яе свой трэнер — Міхаіл Пугачоў. Юля Савіцкая — дзесяцікласніца вучылішча алімпійскага рэзерву, трэніруе яе Святлана Несцерава.

А ў Оршы праходзілі спаборніцтвы Рэспублікі Беларусь па валейболу ў праграме летніх маладзёжных гульняў сярод дзяўчат. Дарэчы, спаборніцтвы гэтыя лічацца як сярод дарослых (1975 года нараджэння і маладзей). І нашы віцябчанкі занялі там трэцяе месца. Адбылося гэта, магчыма, для многіх даволі нечакана. Але ў перамозе дзяўчынак прасочваецца, на маю думку, пэўная заканамернасць. І тут немалая заслуга самога В.А.Стрыжака, хоць і працуе ён у нашым абласным цэнтры параўнаўча нядаўна. Але давайце вернемся да саміх спаборніцтваў.

— Мы ў Оршу выехалі, — расказвае Віктар Аляксеевіч, — можна сказаць, экспромтам. Вельмі хутка ўкамплектавалі каманду. І нам вышэй восьмага-сёмага месца ніхто не называў. Прынамсі, такая думка была і ў трэнераў, і ў суддзяў. Мы прайгралі першы круг камандзе Гродна, якая гуляе ў дарослым чэмпіянаце ў першай лізе. Другую гульню выйгралі ў гомельскай зборнай. І больш перамогі нам ужо ніхто не зычыў. За выхад у фінал сустракаліся з валейбалісткамі з Баранавіч, якія былі значна старэйшымі за нашых. Але мае дзяўчаты перайгралі іх з лікам 3:1 і выйшлі ў фінал. А ў фінал трапілі: дубль каманды "Камунальнік", якая ўдзельнічае ў еўрапейскіх кубках, гродзенская каманда, што выйграла ў нашай, вопытныя валейбалісткі Мінскай вобласці 1976-га года нараджэння. І таму трэцяе месца віцябчанкам ніхто не зычыў. А тут мы выйграём першую і другую партыі ў каманды Мінскай вобласці, трэцюю ва ўпартай барацьбе мы ім аддаём, а ў чацвёртай з лікам 16:14 нашы дзяўчаты паставілі кропку. Гэта было сенсацыяй: на такім дарослым чэмпіянаце вучаніцы восьмых-дзевятых класаў!..

Такім чынам, кожная з гэтай бронзавай васьмёркі выканала норму не ніжэй першага дарослага разраду і прынесла нямала радасці і сабе, і трэнерам, і школе.

З гэтай камандай Віктар Аляксандравіч па сутнасці працуе ўжо амаль тры гады. Спачатку ў спартыўнай школе ДФСТ прафсаюзаў, а потым у СДЮСШАР-4 гарадскога аддзела адукацыі.

— Я лічу, — гаворыць Віктар Аляксеевіч, — што мае дзяўчынкі выканалі такую задачу, якую я не ставіў і не чакаў.

Сам Віктар Аляксеевіч скончыў Віцебскі фізкультурны тэхнікум. Потым — армія. Пасля — Гомельскі універсітэт, 15 год працаваў трэнерам. А затым па запрашэнню трапіў у Віцебск. Тут і набраў у секцыю гэтых дзяўчынак. Даўно ўжо тут не было каманды, і Віктар Аляксеевіч паставіў перад сабой мэту стварыць яе. І. як бачым, гэта яму ўдаецца. Хоць і працуе ён пакуль адзін.

На гэтых спаборніцтвах завод "Легмаш" устанавіў чатыры прызы: лепшай нападаючай, лепшай абаронцы, лепшай сувязной і самай маладой і перспектыўнай удзельніцы. Дарэчы, прэтэндэнтаў было многа. І сярод іх такія, якія ўжо трэніруюцца больш за пяць год у заслужаных трэнераў. Але Аксана Стрэмужэўская набрала ўсё ж больш судзейскіх і трэнерскіх галасоў і атрымала за сваю выдатную гульню прыз — швейную машыну. Такім чынам, яна трапіла ў склад зборнай рэспублікі.

Аксану лічаць спартыўнай надзеяй СДЮСШАР-4. А сама яна, дарэчы, вучыцца ў сярэдняй школе №11 ў матэматычным класе. Займаецца толькі на "4" і "5". Дарэчы, так вучацца і амаль усе дзяўчынкі з каманды В.А.Стрыжака.

Безумоўна, цяжка пакуль Віктару Аляксеевічу, бо ён адзіны трэнер па валейболу ў СДЮСШАР-4, ды яшчэ ў агульнаадукацыйных школах даводзіцца працаваць. Але гэта ўсе разумеюць і дапамагаюць яму.

— Нам прыемна працаваць і з Віктарам Аляксандравічам, і з Міхаілам Міхайлавічам, — зазначыў В.А.Стрыжак. — Яны нам заўсёды даюць зялёную дарогу.

Зазначым, што Віктар Аляксандравіч — загадчык гараддзела адукацыі Праснякоў, а Міхаіл Міхайлавіч — дырэктар СДЮСШАР-4 Мінаў.

Есць першы поспех. І, думаецца, за ім прыйдуць новыя перамогі. Прынамсі, хочацца пажадаць гэта і трэнеру В.А.Стрыжаку, і яго выхаванкам.

А.ШПЫРКОЎ.

На здымку (злева направа): О.Яшчанка, Ю.Гірыловіч, Т.Kуліні́ч, Ю.Савіцкая, А.Стрэмужэўская, М.Любачка, І.Лебедзева, О.Шчурко са сваім трэнерам В.А.Стрыжаком (у цэнтры).

◆ ГЭТА ЦІКАВА

# А Ў ФРАНЦУЗАЎ — СВАЯ ПРАБЛЕМА

У галоўным Напалеонаўскім двары Палаца Луўр — архітэктурна-гістарычнай гордасці Парыжа на працягу апошняга часу можна было бачыць даволі дзіўнае збудаванне. З некалькіх нацягнутых канатаў была складзена гіганцкая піраміда, вяршыню якой трымала сталёвая рука ўстаноўленага побач пад'ёмнага крана. А вуглы асновы былі замацаваны на ўкапаных у зямлю масіўных круках. Мэта гэтай імітацыі — праверыць на месцы і наглядна паказаць парыжанам, як будзе выглядаць у натуральную велічыню вялізная шкляная піраміда, якую плануецца ўзвесці тут у недалёкім будучым.

Згодна з праектам, прапанаваным амерыканскім архітэктарам І.М.Пеем і ў прынцыпе адобраным французскімі ўладамі, хоць і неаднадушна парыжанамі, гэтае збудаванне дасць музею Луўра новыя зручныя ўваходы і выхады для бясконцага патоку наведвальнікаў, а таксама новыя прасторныя памяшканні для запаснікаў і рэстаўрацыйных майстэрняў, якіх цяпер ён практычна пазбаўлены.

Крытыкі праекта, прызнаючы рэальнасць і сур'ёзнасць гэтай праблемы, адзначаюць, што вырашыць яе ўпаўне можна не такім мадэрнісцкім і задзірлівым спосабам. Такія формы піраміды, па іх перакананню, стануць вельмі рэзка кантраставаць з агульным архітэктурным стылем помніка даўніны.

Спасылкі на неабходнасць беражлівых адносін да рэліквій старажытнасці гучаць, аднак, у Парыжы не вельмі пераканаўча. Узвялі ж тут некалькі год назад пасярод аднаго з самых старых і прыгожых кварталаў Цэнтр культуры імя Жоржа Пампіду — па знешняму выгляду нейкую помесь нафтаперагоннага завода з нечым накшталт танкера, перавітую таўсценнымі ці то каналізацыйнымі, ці то вентыляцыйнымі трубамі. І нічога: стаіць сабе і нават карыстаецца ў парыжан і гасцей з правінцыі і з-за мяжы вялікай папулярнасцю. Не ўпускаюць прыхільнікі піраміды таксама выпадку спаслацца на гістарычны прэцэдэнт: супраць будаўніцтва вядомай Эйфелевай вежы, маўляў, была ў свой час узнята хваля пратэстаў, прычым адным з яе ініцыятараў быў не хто-небудзь, а выдатны пісьменнік-трыбун Эміль Заля, які лічыў, што яна псуе выгляд Парыжа. І што ж? Менавіта Эйфелева вежа з гадамі стала свайго роду эмблемай французскай сталіцы.

Таму праціўнікі праекта лічаць за лепшае карыстацца аргументамі больш практычнай уласцівасці. У моцна забруджаным парыжскім паветры, кажуць яны, шкляныя грані піраміды адразу ж страцяць першародную чысціню і празрыстасць. Перад наведвальнікамі паўстане не асляпляльны крыштальны палац, а хутчэй малаэстэтычнае падабенства старога заводскага склада, пакрытага куродымам і пылам.

Так гэта ці не — пакажа час. Пакуль жа ў двары Луўра капаюць вялізны катлаван, у якім плануецца змясціць асноўную частку будучага збудавання. Будаўнічыя работы вельмі хутка ператварыліся ў археалагічныя раскопкі — занадта ўжо многа цікавага наслаілі мінулыя стагоддзі ў гэтай, адной з самых старажытных, частцы Парыжа. Пачатак Луўру быў пакладзены у XIII стагоддзі. Затым, аж да нашага стагоддзя, практычна ўсе французскія дынастыі і рэжымы ўнеслі свой уклад у яго ўзвядзенне і перабудову. Чым толькі яму не даводзілася быць за гэты час — і крэпасцю, і турмой, і рэзідэнцыяй каралёў, і музеем, і аж да нашых дзён адміністрацыйным будынкам, паколькі ў адным яго крыле да гэтага часу размешчана міністэрства фінансаў. З перыяду французскага Адраджэння Луўр уяўляе гарманічны архітэктурны ансамбль, адзін з самых прыгожых у свеце.

Ідэя ператварыць Луўр у музей нарадзілася ў XVIII стагоддзі, яшчэ пры Людовіку XV, але кароль яе адхіліў, не жадаючы дзяліцца са сваімі падданымі правам любавацца сабранымі там унікальнымі творамі мастацтва. Ажыццёўлена яна была, хоць і не цалкам, толькі ў выніку французскай буржуазнай рэвалюцыі. Дэкрэтам Канвента ў 1793 годзе ў Луўры быў заснаваны Цэнтральны музей мастацтваў. Пры Напалеоне, які бессаромна грабіў гістарычныя і культурныя каштоўнасці заваяваных краін, яго калекцыя стала адной з багацейшых у свеце. Пасля краху імперыі ў 1815 годзе значная частка награбленых скарбаў была вернута іх гаспадарам, але многае ўсё ж засталося ў Луўры, і ў далейшым яго скарбы няспынна папаўняліся.

Па рашэнню французскага ўрада на адной з ускраін Парыжа будзе пабудаваны новы будынак міністэрства фінансаў, што дазволіць Луўру, нарэшце, цалкам стаць музеем.

Ю.ШАСТАК,
загадчык філіяла Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.

◆ ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Каб абутак служыў даўжэй

Каб абутак служыў даўжэй і меў ахайны выгляд, яго трэба правільна даглядаць.

Першае правіла: абутак, які вы носіце кожны дзень, трэба чысціць не перад выхадам з дому, а адразу ж як вы прыйшлі з вуліцы. На ноч абутак, папярэдне ачышчаны ад пылу і бруду, змазваюць ваксай і пакідаюць у такім выглядзе да раніцы. Гэта змякчае скуру, папярэджвае яе ад трэшчын. Раніцай вельмі хутка ўдаецца надаць абутку выдатны глянец.

Светлы абутак (асабліва белы) трэба працерці чыстай белай анучкай, змочанай у малацэ.

Замшавы абутак лепш за ўсё чысціць над парай, карыстаючыся рызінавай ці жорсткай валасяной шчоткай. Калі замша моцна забруджана, яе папярэдне мыюць цёплай мыльнай вадой (не надта змочваючы), а затым чысцяць шчоткай.

Лакіраваны абутак трэба час ад часу праціраць анучкай, змочанай у сырым малацэ. Пацьмянелыя месцы карысна працерці разрэзанай цыбулінай, а затым адпаліраваць мяккай сухой анучкай. Для захавання эластычнасці лакіраванай скуры яе трэба калі-нікалі змазваць касторным алеем або гліцэрынай.

Калі абутак моцна намок і забрудзіўся, трэба абмыць яго звонку халоднай вадой, працерці сухой анучкай, а затым напхаць добра пакамечанай газетнай паперай ці сухім сенам. Праз некалькі гадзін папера (або сена) убяруць у сябе ўсю лішнюю вільгаць. Мокры абутак пасля мыцця карысна змазаць зверху гліцэрынай.

Рызінавы абутак доўга захоўвае свой бляск, калі не пакідаць яго брудным. Прыйшоўшы з вуліцы, неабходна адразу ж добра памыць боты халоднай вадой і насуха выцерці.

Чысціць рызінавыя і прарызіненыя рэчы бензінам, шкіпінарам, шчолаччу або нават мылам нельга.

Драпіну або невялікі "задзір" на жаночым абутку з тонкай скуры можна лёгка выправіць. Для гэтага на пашкоджанае месца і на тыльны бок "задзіра" нанесці тонкі слой лаку для пазногцяў або клею БФ-2 і прыціснуць садраны кавалак скуры да пашкоджанага месца. Праз некалькі мінут скура шчыльна прырасце да свайго месца. Драпіну дастаткова змазаць тонкім слоем клею БФ-2.

Абутак, які ў гэтым сезоне не носяць, рэкамендуецца захоўваць на расправачных калодках, тады ён захавае сваю форму, скура не пакарабаціцца і не патрэскаецца. Для лакіраванага абутку гэта асабліва важна. Калі калодак няма, можна напхаць абутак добра пакамечанай газетнай паперай. Перш чам пакласці абутак на доўгае захоўванне, яго трэба старанна вычысціць і змазаць ваксай, лакіраваны абутак рэкамендуецца трохі працерці касторавым алеем або чыстай гліцэрынай. Рызінавыя боты праціраюць гліцэрынай. Абутак укладваюць у каробкі ці загортваюць у паперу і захоўваюць у сухім месцы.

# Гаспадыні на заметку

* Белае футра, каб не жаўцела, праціраюць растворам перакісу вадароду (сталовая лыжка на літр вады). Футра, якое пажаўцела, чысцяць крыху мацнейшым растворам, але толькі зверху, каб яго не пашкодзіць.

* Каб скураное паліто не губляла бляску, час ад часу працірайце яго анучкай, змочанай гліцэрынай, або апельсінавымі лупінамі. Не забудзьцеся пра зацёртыя месцы на каўнярах і манжэтах.

* Калі мужчынская кашуля вельмі забрудзілася, з вечара добра патрыце талькам каўнер і манжэты, пасыпце тоўсты слой тальку на гэтыя месцы і пакіньце да раніцы. Кашуля лёгка адмыецца.

* Плямы ад шарыкавай ручкі лёгка здымаюцца пры дапамозе любога адэкалону.

* А плямы ад духоў на белай баваўнянай тканіне добра выводзяцца перакісам вадароду.

* Чарнільную пляму са старонкі кнігі можна змыць 20-працэнтным растворам перакісу вадароду.

* Плесень з кніг знімаюць нашатырным спіртам, сляды ад мух — воцатам.

* Не выкідвайце лупіны ад сырой бульбы. Нарэжце іх на дробныя кавалкі, дабаўце гарачай вады, воцату, солі — і гатовы выдатны сродак для мыцця бутэлек.

* Не выкідвайце лупіны ад лімона. Пракіпяціце іх 10 мінут у посудзе, які трэба ачысціць ад накіпу.

* Не вылівайце ваду, у якой варылася бульба "у мундзірах". Ею добра мыць шкляны, фаянсавы і гліняны посуд.

* Не вылівайце ваду, у якой варылі агародніну. Астудзіце яе і паліце хатнія кветкі.

# Пячэнне

Размякчаны маргарын перамяшаць з тварагом, паступова даючы муку, змешаную з содай. Цеста раскачаць у выглядзе жгута дыяметрам 4 см і нарэзаць кружкамі. Кожны кружок адным бокам прыціснуць да цукровага пяску, насыпанага ў сподачак. Пакласці на бляху, змазаную алеем. Выпякаць у духоўцы да залацістага колеру.

500 г тварагу, 200 г сметанковага маргарыну, 4 шклянкі мукі, 1 ч. лыжка соды, 0,5 шклянкі цукру.

Зімовы дзень.

Мал. А. ДАРАГАКУПЦА.



# Хлебны церамок

## = Фотарэпартаж =

У наш тлумны час прасцей падаваць ідэі, чым іх ажыццяўляць. Таварыства "Элтык" са сваёй чарговай задумкай доўга не насілася: ад прапановы да ўвасаблення мінула... Але ці ж так важна, колькі часу патрачана — год ці нават два. Галоўнае, віцябляне, а дакладней жыхары мікрараёна "Поўдзень-5", атрымалі цудоўны падарунак.

У канцы вуліцы Чкалава, між строгіх дзевяціпавярховак, удала ўпісаўся арыгінальнай формы церамок, аздоблены чырвонай цэглай, мініяцюрнымі калонамі. Ну хто сказаў бы, што гэта пякарня, калі б не шыльда са словамі "Гарачы хлеб".

Зрэшты, і без шыльды можна было б здагадацца: па прыцягальнаму хлебнаму паху. Кіруемся разам з фотакарэспандэнтам Г.Жукавым следам за дзвюма жанчынамі. Аказваецца, яны з бліжэйшых дамоў. Паспыталі ўжо новай прадукцыі. Ідуць купіць яшчэ.

— Прама скажу, — дзеліцца ўражаннямі старэйшая, — такой высокай якасці хлебабулачных вырабаў нідзе ў горадзе больш няма.

— І маёй сям'і спадабаліся, — пацвярджае маладая кабета. — Асабліва бутэрбродны батон.

Дзіўна, што ў невялікім памяшканні размясцілася ўсё неабходнае: сама пякарня, вось-вось магазін адкрыецца, ды і бар мяркуецца. Усё, што звязана з прыёмам кліентаў, зроблена з тонкім густам — разьба па дрэву, дэкаратыўнае асвятленне.

З вытворчасцю нас знаёміць адна з работніц гэтага хлебнага церамка Таццяна Емяльянава.

— Пачалі выраблянь жытні "Маскварэцкі" і батоны "Бутэрбродны", "Каласок", "Арыгінальны". Але гэта толькі першыя крокі. У далейшым асартымент будзе значна расшыраны. Усё абсталяванне новае, балгарскай вытворчасці, працуе ў аўтаматычным рэжыме. Рэцэпты вырабаў і тэхналогію атрымалі ў адным з маскоўскіх інстытутаў.

— Колькі чалавек занята на абслугоўванні абсталявання? — пацікавіліся мы.

— Пяцёра. Гэта калі працаваць у адну змену. Усе маюць пэўны вопыт работы ў хлебапякарнай вытворчасці.

Кошт вырабаў падаўся нам спачатку высакаватым. Але калі прыкінулі аб'ёмы батонаў, параўналі з тымі, што купляем у шматлюдных магазінах, — сумненні адпалі. Тым больш, што якасць сапраўды высокая.

Якой магутнасці будзе новае прадпрыемства, ці ўсім нам давядзецца хоць бы паспытаць гэтых вырабаў — залежыць ад многіх фактараў. У тым ліку і ад такіх празаічных: наколькі рэнтабельнай акажацца вытворчасць, ці заўсёды ўдасца закупляць неабходнай якасці муку і іншыя кампаненты. Рабіць добры хлеб — справа тонкая. Гэта не тое, што нарошчваць капітал на таварна-грашовых, пасрэдніцкіх і таму падобных сумніцельных, але затое амаль бяспройгрышных аперацыях.

У дзяржаўных хлебапёкаў з'явіўся канкурэнт. Нам, пакупнікам, гэта на карысць.



**А.БАРАНОЎСКІ.**

**На здымках:** пекары Валянціна Шынкевіч (уверсе) і Тамара Суддзева.

Фота Г.ЖУКАВА.

# УНІВЕРСІТЭТ ПРАПАНУЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Ролі Полацкага дзяржаўнага універсітэта ў сваім рэгіёне была прысвечана навукова-практычная канферэнцыя, якая праведзена ў Наваполацку на базе гэтай ВНУ. Вучоныя, вкладчыкі разам з прадстаўнікамі сістэмы адукацыі, культуры, розных галін народнай гаспадаркі раіліся аб тым, як наладзіць больш цеснае ўзаемадзеянне навукі з практыкай.

Рэктар універсітэта Эрнст Бабенка, пазнаёміўшы гасцей са сваёй навучальнай установай, якая хоць і мае трывалую аснову колішняга політэхнічнага інстытута, але знаходзіцца ў стадыі станаўлення, назваў шэраг напрамкаў у тэхналогіі, у арганізацыі вытворчасці, дзе універсітэцкія вучоныя, вынаходцы могуць прапанаваць нямала цікавага для практыкі. Пасля пленарнага пасяджэння ўдзельнікі канферэнцыі працавалі па секцыях, непасрэдна знаёміліся на кафедрах, у лабараторыях з навінкамі, створанымі ва універсітэце, з планамі і задумамі, над якімі ідзе работа.

**Г.КІРЫЛАЎ.**

## ПАВАЖАНЫЯ ВІЦЯБЛЯНЕ!

**У нядзелю, 12 снежня 1993 г., у 12 гадзін у памяшканні сінагогі (вул. 1-я Калгасная, 4) адбудзецца сход па пытаннях добраўпарадкавання Стара-Уланавіцкіх (яўрэйскіх) могілак. Запрашаюцца ўсе зацікаўленыя асобы.**

**Камітэт па добраўпарадкаванню могілак.**



# Навіны адным абзацам

*Бабруйскі гарадскі Савет народных дэпутатаў прыняў рашэнне ўвесці мясцовы падатак на ўтрыманне дзіцячых дашкольных устаноў і знайшоў поўнае разуменне ў працоўных калектывах. Прамысловыя прадпрыемствы, будаўнічыя, транспартныя, камерцыйныя і іншыя гаспадарчыя арганізацыі горада адлічваюць "на дзяцей" восем працэнтаў ад фонду аплаты працы. Таму ў Бабруйску і працягваюць працаваць усе бюджэтныя дзіцячыя садкі і яслі.*

***

*Не збянтэжыла адну з фірм Еўрапейскай Эканамічнай Асацыяцыі эканамічная і экалагічная нестабільнасць на Гомельшчыне. Яна заключыла дагавор на сумесную перапрацоўку малака з Рагачоўскім малочна-кансервавым камбінатам.*

***

*Хоць "гандлююць" беларускія "чаўнакі" ў асноўным у Расіі, не змяншаецца колькасць жадаючых трапіць на той бок Буга. Як паведамілі работнікі мытнай службы, толькі праз аўтамабільныя пагранічныя пункты ў Брэсце з пачатку года праехала каля двух мільёнаў чалавек.*

***

*Лаўрэатамі Міжнароднага дзіцячага музычнага фестывалю імя Міхаіла Агінскага, які адбыўся ў мінулыя выхадныя ў Смаргоні, сталі піяністка Дзінара Мазітава з Ліды, Мінскі скрыпач Арцём Шышкоў і віяланчэлістка Эмануэла Панятоўская з Варшавы.*

***

*Музычны каледж створаны на базе Брэсцкага музвучылішча. На думку яго дырэктара Жанны Савінай, гэта пераўтварэнне дасць магчымасць увесці новыя курсы, напрыклад "Асновы матэматыкі і інфарматыкі", "Музыка ў школе" і іншыя, якія дапамогуць вучням набыць веды за курс сярэдняй школы і больш паглыблена пазнаёміцца з будучай спецыяльнасцю.*

***

*Першы ў Беларусі магнітна-рэзанансны тамограф пачаў працаваць у рэнтгенадыягнастычным аддзяленні Магілёўскай абласной бальніцы. Пры дапамозе гэтай навейшай устаноўкі можна абследаваць любыя ўнутраныя органы чалавека, у тым ліку і спінны мозг. Прадыягнаставаны першыя сотні хворых, якім не дапамаглі традыцыйныя метады. "Усебачны" тамограф зроблены на адным з канверсійных маскоўскіх заводаў.*

***

*Рэкорды вераснёўскай зарплаты апублікавала брэсцкая абласная газета "Заря". У самым вялікім адрыве ад прадстаўнікоў іншых арганізацый і прадпрыемстваў работнікі філіяла акцыянернага камерцыйнага банка "Белбізнесбанк". У сярэднім кожны з іх ужо ў верасні атрымаў больш за 270 тысяч рублёў.*

Белінфарм.

# КРАСВОРД

## Склала М.АНДРЭЕВА.



**Па гарызанталі:** 7. У Старажытных Афінах — прафесіянальны даносчык, паклёпнік, шантажыст. 8. Спартыўнае прыстасаванне. 9. Аптычная прылада для павелічэння дакладнасці наводкі гарматы. 11. Рэчыва з раслінных ці жывёльных тканак, якое атрымліваюць пры дапамозе якога-небудзь растваральніка. 12. Пункт погляду, з якога разглядаюцца прадметы, паняцці, з'явы. 13. Итальянскі спявак, буйнейшы майстар бельканта. 15. Нечаканае здарэнне, непрадбачаны выпадак. 17. Шкурка неданошаных ягнят. 18. Аддзел фізікі, які вывучае газападобныя целы. 21. Зоркападобная крыніца касмічнага выпраменьвання, якая сваёй масай і сілай святла ў многа разоў пераўзыходзіць сонца. 23. Нерухомая частка электрычнай машыны. 25. Абадок у некаторых мужчынскіх галаўных уборах, да якога прымацоўваецца верх. 27. Чалавек, які займае месца дзякуючы пратэкцыі ўплывовай асобы і з'яўляецца паслухмяным выканаўцам яе волі. 28. Прадстаўнік рэвалюцыйна-дэмакратычных слаёў французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII стагоддзя. 29. Инфармацыя, паведамленне ў газеце аб здарэннях, падзеях. 30. Запаленне нёбных міндалін.

**Па вертыкалі:** 1. Адзінка вымярэння магутнасці электрычнага току. 2. Род папугаяў з доўгім чубам і моцнай дзюбай. 3. Кароткі выраз павучальнага характару, звычайна ў вершаванай форме. 4. Шырокая праезная дарога. 5. Дзяржава ў Старажытнай Грэцыі. 6. Від пячэння высокай каларыйнасці. 10. Навука аб палёце лятальных апаратаў у сусветнай прасторы. 11. Эксперыментальны метад вырошчвання тканкі па-за арганізмам. 14. Металічны шпень з шырокай галоўкай на адным канцы, прызначаны для змацавання металічных частак чаго-небудзь. 16. У матэматыцы — чацвёртая частка круга. 19. Ансамбль з чатырох выканаўцаў. 20. Савецкі мастак, заснавальнік супрэматызму. 22. Царкоўны служыцель. 24. Сілікат магнію і жалеза — паўкаштоўны камень зеленаватага колеру розных адценняў. 25. Доўгая вяроўка з рухомай пятлёй на канцы, якой ловяць жывёлу. 26. Раптоўны моцны парыў ветру.

## АДКАЗЫ

### на красворд, змешчаны ў нумары за 4 снежня.

**Па гарызанталі:** 1. Мінск. 6. Калыханка. 11. Стандарт. 12. Авангард. 16. Замша. 17. Глазура. 18. Ансыр. 19. Толь. 20. Дэка. 23. Засім. 24. "Каліпса". 25. Насос. 26. Корнфарт. 28. Селектар. 29. Караваева. 30. Атара.

**Па вертыкалі:** 2. "Идыёт". 3. Смала. 4. Кабарга. 5. Экватар. 7. Стаматаскоп. 8. Антаблемент. 9. Агратэхніка. 10. Гросмайстар. 13. Дзераза. 14. Дзейнік. 15. Пратэст. 21. Акрабат. 22. Маслава. 27. Тракт. 28. Стаер.

*Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі*
*Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА*



210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.



Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — **2 друкаваныя аркушы.** Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 160.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.

♦ *КУЛЬТУРА*

# Гастролі супалі з юбілеем

Калектыў самадзейнага народнага тэатра Аршанскага Дома культуры чыгуначнікаў рэгулярна наведвае Коханава Талачынскага раёна, дзе выступае перад чыгуначнікамі і жыхарамі пасёлка.

Днямі самадзейныя артысты зрабілі чарговую паездку ў Коханава. У мясцовым Доме культуры яны паказалі камедыю "І смех, і грэх". У галоўных ролях былі заняты работнікі чыгуначнага вузла Тамара Самадульская, Любоў Садоха, Сяргей Вахтанаў, Генадзь Юмаў. У спектаклі таксама ўдзельнічала і група навучэнцаў школ горада.

Са сваім спектаклем тэатр плануе ў бліжэйшы час выступіць і ў некаторых буйных населеных пунктах суседніх раёнаў. Дарэчы, днямі тэатр адзначыў сваё дзевяностагоддзе.

**І.КОГАН.**